● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

15 кастрычніка 1996 г. аўторак, № 248 (23051)




# ЗВЯЗДА

## ДЫК ХТО ВІНАВАТЫ Ў ТЫМ, ШТО НЕ ХАПАЕ МАРГАРЫНУ?

**Зноў звярнуцца да тэмы дэфіцыту гэтага прадукту харчавання айчыннай вытворчасці ў крамах прымусіла інфармацыя з Расонскага раёна Віцебскай вобласці.**

Па звестках, атрыманых у раённым спажывецкім таварыстве, адсутнасць маргарыну колькі часу таму нават ледзь не прывяла да спынення ў раёне хлебапякарнай вытворчасці. Менш сталі выпякаць і кандытарскіх вырабаў, замяняючы патрэбны маргарын маслам, што не самым лепшым чынам адбілася на кошце гэтай прадукцыі. Праўда, днямі раён атрымаў 1,5 тоны маргарыну, якога павінна хапіць на 20 дзён. Прычым прадукцыя была атрымана не з Мінскага маргарынавага завода, а праз камерцыйную фірму. Як патлумачылі ў раённым спажывецкім таварыстве, у аддзеле збыту Мінскага маргарынавага завода ў набыцці маргарыну ім было адмоўлена. Між тым патрэба раёна на месяц складае каля трох тон. Улічваючы, што такая сітуацыя паўтаралася (або паўтараецца) і ў іншых рэгіёнах краіны (напрыклад, колькі часу таму маргарын быў сапраўдным дэфіцытам у Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці), рэдакцыя зноў звярнулася па паўторныя тлумачэнні да намесніка дырэктара АТ «Мінскі маргарынавы завод» Генадзя Гінзбурга.

— Безумоўна, пэўная праблема ў забеспячэнні маргарынам спажыўцоў сёння існуе, — паведаміў Генадзь Аляксандравіч. — Апошнім часам да нас звярталіся з Брэсцкай вобласці, Гомельскай і інш. Тэлефанавалі ў аддзел збыту і з Расон. Але чаму не кожны, хто да нас звярнуўся, змог атрымаць маргарын? Справа ў тым, што патрэбна папярэдняя заяўка з пацвярджэннем аплаты заказу. Да нас звяртаюцца сотні заказчыкаў, таму нам неабходна планаваць размеркаванне прадукцыі.

Як зазначыў далей намеснік дырэктара, пры наяўнасці папярэдняй заяўкі завод у стане задаволіць любыя патрэбы кліентаў. Чуткі, што прадпрыемства не ў стане гэта зрабіць, не маюць пад сабой ніякай глебы, паколькі раней завод «карміў» 26 абласцей РСФСР, падкрэсліў Генадзь Аляксандравіч. Але вялікія выдаткі на сыравіну, шматлікія адмовы ад раней зробленых заказаў ці запазычанасці заказчыкаў вымушаюць Мінскі маргарынавы завод працаваць з кліентамі больш строга.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВОСЕНЬ — ЧАС ПРЫМЯРАЦЬ ФОРМУ

**У рэспубліцы пачалася асенняя прызыўная кампанія.**

Чарговы прызыў юнакоў на ваенную службу будзе крыху адрознівацца ад папярэдніх перш за ўсё парадкам яго правядзення. Камандзіры часцей змогуць сумесна з раённымі ваеннымі камісарыятамі таксама прыняць актыўны ўдзел у адборы сабе маладога папаўнення. Раней такі адбор праводзіўся толькі ў мабільныя сілы, войскі спецыяльнага прызначэння, у разведвальныя падраздзяленні... Адпраўка прызыўнікоў ва Узброеныя Сілы рэспублікі, па ўказанню міністра абароны Беларусі, пройдзе з 10 снежня сёлетняга па 20 студзеня наступнага года.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**



*На восеньскі кірмаш.* *Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.*

## ПРЭЗІДЭНТ КРАІНЫ ПААБЯЦАЎ ЖАНЧЫНАМ ДАЦЬ УЛАДУ НА МЕСЦАХ І ВА ЎРАДЗЕ

**Сёлета Дзень маці ўпершыню адзначаўся ў краіне як дзяржаўнае свята. Прадстаўніц усіх рэгіянальных жаночых арганізацый, актывістак жаночага руху 14 кастрычніка прымала сталіца. Свята пачалося з адкрыцця Цэнтра сацыяльнай падтрымкі Беларускага саюза жанчын. У гэтай цырымоніі прыняў удзел Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка.**

У час кароткай экскурсіі па цэнтру кіраўнік дзяржавы агледзеў класы, прызначаныя для навучання шыццю, вязанню, заняткаў народнымі промысламі. Тут жанчыны змогуць пагутарыць адна з адной, падзяліцца набалелымі праблемамі, а таксама атрымаць кансультацыі ў псіхолага, юрыста, педагога і іншых спецыялістаў.

Амаль шэсць гадоў Беларускі саюз жанчын дабіваўся адкрыцця такога цэнтра. Ажыццявілася ж мара толькі пасля ўмяшання Прэзідэнта краіны. Таму старшыня саюза Тамара Дудко выкарыстала выпадак, каб падзякаваць кіраўніку дзяржавы за гэты падарунак. У сваю чаргу, Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад прысутнымі, выказаўся аб адкрыцці такіх цэнтраў у кожнай вобласці, раёне і горадзе рэспублікі і паабяцаў са свайго боку ўсялякае садзейнічанне. Бо, паводле слоў Прэзідэнта, для жанчын трэба рабіць усё, каб яны былі шчаслівыя.

Многія апошнія ўказы і распараджэнні кіраўніка дзяржавы таксама накіраваны на паляпшэнне становішча жанчын, іх сем'яў і дзяцей. Пры кожнай магчымасці дзяржава і ў далейшым будзе адшукваць сродкі, каб дапамагчы маці, адзінокім пенсіянеркам, вырашыць праблемы з жаночым беспрацоўем. Зрэшты, «спіс» праблем, якія патрабуюць пільнай увагі з боку кіраўніцтва краіны, быў прадоўжаны ў выступленнях прадстаўніц прыгожага полу. У іх ліку пагаршэнне здароўя насельніцтва, зніжэнне нараджальнасці, маральны крызіс сярод падлеткаў і моладзі, незапатрабаванасць жанчын у структурах мясцовай і вышэйшай дзяржаўнай улады.

Апошнюю праблему Аляксандр Лукашэнка паабяцаў вырашыць у бліжэйшай будучыні. Завяршаючы сустрэчу, ён адзначыў, што, відаць, адказы на ўсе «жаночыя» пытанні змогуць даць толькі самі жанчыны. Для гэтага Прэзідэнт краіны гатовы сур'ёзна разгледзець прагучаўшую тут прапанову аб 25-працэнтнай квоце для жанчын у структурах дзяржаўнай улады.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## УБРАНА БОЛЬШ ЯК ПАЎТАРА МІЛЬЁНА ТОН БУЛЬБЫ

Паводле апошніх даных, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, гаспадаркамі ўжо ўбрана 1.563 тысячы тон бульбы. Апрацавана 106 тысяч гектараў (ці 93 працэнты ад пасаджанага). Ураджайнасць складае 148 цэнтнераў з гектара. За межы рэспублікі адгружана 41,5 тысячы тон, гаспадаркамі прададзена дзяржаве 146,2 тысячы тон бульбы.

Стала вядома, што з-за неспрыяльных прыродных умоў сёлета загінула бульба на плошчы каля 8 тысяч гектараў.

Самыя лепшыя паказчыкі па ўраджайнасці зараз у Брэсцкай — 167 і Гродзенскай абласцях — 161 цэнтнер з гектара.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### *Дарагія нашы маці! Дарагія жанчыны Беларусі!*

14 кастрычніка рэспубліка адзначае новае ў афіцыйным календары, але якое пастаянна жыве ў нашых сэрцах, свята — Дзень маці.

Жанчына-маці ўвасабляе сабой мудрасць, з'яўляецца захавальніцай дамашняга ачага, нясе шматлікія клопаты па выхаванню падрастаючага пакалення. З яе імем звязаны вечныя вобразы Любові, Веры і Надзеі.

Жыццё маці-працаўніцы павінна быць шчаслівым і дастойным. Менавіта таму ўрад рэспублікі асаблівую ўвагу ўдзяляе мнагадзетным сем'ям, адзінокім і састарэлым, аддае прыярытэт вырашэнню задач па паляпшэнню сацыяльнай абароны жанчын, якія выхоўваюць дзяцей, аблягчэнню ўмоў іх працы і быту. У рэспубліцы зацверджаны Нацыянальны план дзеянняў па паляпшэнню становішча жанчын, накіраваны на змякчэнне найбольш вострых праблем сучаснага пераходнага перыяду, матэрыяльную падтрымку сем'яў, папярэджанне жаночага беспрацоўя, пашырэнне ўдзелу жанчын у вытворчым і грамадскім жыцці.

Зацікаўленыя адносіны дзяржавы да праблем жанчын-маці, умацаванне заканадаўчай базы па ахове мацярынства знайшлі сваё адлюстраванне ў праекце змяненняў і дапаўненняў да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, вынесеным на ўсенароднае абмеркаванне.

Дзяржава будзе і ў далейшым рабіць усё магчымае для павышэння жыццёвага ўзроўню народа, для аблягчэння штодзённых цяжкасцей і клопатаў маці, якія выхоўваюць дзяцей.

Са святам вас, дарагія маці! Жадаю моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту вам і вашым сем'ям!

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 424

**Аб унясенні змяненняў ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 1996 г. № 233 і ад 28 чэрвеня 1996 г. № 235**

1. Унесці ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь наступныя змяненні:

1.1. Ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 1996 г. № 233 «Аб рэарганізацыі рэдакцыі газеты «Народная газета» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 19, арт. 460):

у пункце 1:

словы: «закрытае» і «ЗАТ» замяніць адпаведна словамі: «адкрытае» і «ААТ»;

абзац другі выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«кантрольны пакет акцый ААТ «Народная газета» (51 працэнт) знаходзіцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь, а 49 працэнтаў акцый перадаецца ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву рэдакцыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам»;

у пункце 2 слова «лістапада» замяніць словам «снежня»;

1.2. У назве і тэксце Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 1996 г. № 235 «Аб назначэнні М. В. Шыманскага генеральным дырэктарам закрытага акцыянернага таварыства — галоўным рэдактарам газеты «Народная газета» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 19, арт. 462) слова «закрытага» замяніць словам «адкрытага».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

14 кастрычніка 1996 г.
г. Мінск.

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Прадугледжваецца, што ў наступным годзе намінальны памер **сярэднемесячнай зарплаты** ўзрасце і складзе 1566 тысяч рублёў.

❑ За 8 месяцаў **сукупная рублёвая маса** ў абароце вырасла на 53,5 працэнта, інфляцыя склала 21 працэнт.

❑ Па ацэнках Федэрацыі прафсаюзаў, сёння **трэць насельніцтва** Беларусі мае даход ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту.

❑ На аўтапераходзе «Казловічы» мытнікі выявілі **кантрабандны груз** гарэлкі і джыну, прыкладны кошт якога ацэньваецца ў 1 мільярд 817 мільёнаў беларускіх рублёў.

❑ У Расіі кожны другі мужчына і кожная трэцяя жанчына адчуваюць **алкагольную залежнасць**.

❑ З пачатку года ў рэспубліцы **абрабаваны** 32 сельскія касы.

❑ Па інфармацыі часопіса «Форбс, у Злучаных Штатах Амерыкі сёння **налічваецца рэкордная колькасць мільярдэраў** — 135 чалавек.

❑ У I паўгоддзі службамі Мінсельгасхарчу выяўлена незаконных **расходаў, недастач і крадзяжоў** грашовых сродкаў і таварна-матэрыяльных каштоўнасцей на суму 41.027 мільёнаў рублёў.



*ГРАМАДСКАЯ ДУМКА*

## ВЫРАШАЛЬНАЙ ПЕРАВАГІ НЯМА НІ Ў ПРЭЗІДЭНТА, НІ Ў ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

### Сацыёлагі сцвярджаюць, што трыумфальнай перамогі на лістападаўскім рэферэндуме не атрымае ніводзін з канфліктуючых бакоў

**Маючы адбыцца лістападаўскі рэферэндум для Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі будзе намнога больш сур'ёзным выпрабаваннем, чым папярэдні плебісцыт, узору мая 1995 года. І справа не толькі ў тым, што несувымерныя палітычныя і прававыя вынікі гэтых дзвюх акцый. За мінулыя паўтара года ў краіне адбыліся істотныя змены.**

З'явіўся новы парламент, які ў сваіх адносінах з кіраўніком дзяржавы кіруецца часцей за ўсё іншымі прынцыпамі, чым Вярхоўны Савет папярэдняга склікання. Новыя імёны ўзніклі на палітычным небасхіле. Нарэшце, пэўныя высновы зрабіла насельніцтва з вопыту эканамічных пераўтварэнняў, спробы якіх рабіліся на працягу гэтага часу Прэзідэнтам і ўрадам.

Разам з гэтымі хуткаплыннымі зменамі ў палітыцы і эканоміцы не стаіць на месцы і грамадская думка — галоўны барометр, паказчыкамі якога кіруецца Аляксандр Лукашэнка пры ажыццяўленні сваёй палітыкі.

Як большасць насельніцтва ставіцца да лістападаўскага рэферэндуму і да пытанняў, якія выносяць на ўсенароднае галасаванне Прэзідэнт і Вярхоўны Савет? Паспрабуем прааналізаваць гэту праблему, выкарыстаўшы вынікі апошняга, вераснёўскага апытання, праведзенага адной з найбольш аўтарытэтных сацыялагічных службаў Беларусі, — лабараторыяй Андрэя Вардамацкага «Новак». (Апытанне праводзілася па заказу «Белорусской деловой газеты».)

Мяркуючы па ўсім, для рэферэндуму Аляксандр Лукашэнка выбраў даволі ўдалы момант. Асабісты рэйтынг Прэзідэнта ўжо каля паўгода трымаецца прыблізна на адным узроўні — і, верагодна, гэта найбольш высокая адзнака, магчымая ў цяперашніх умовах на бліжэйшую перспектыву. Калі б прэзідэнцкія выбары адбыліся ў бліжэйшы час, за Аляксандра Лукашэнку гатовы аддаць галасы 46,5 працэнта апытаных. Для параўнання: за Станіслава Шушкевіча — 3,9 працэнта; за Зянона Пазняка — 3,8 працэнта; за Генадзя Карпенку — 2,2; за Вячаслава Кебіча — 1,6; за Станіслава Багданкевіча — 1,2 працэнта. У Сямёна Шарэцкага і Міхаіла Чыгіра гэты паказчык складае менш як 1 працэнт.

Папулярная ў народзе і сама ідэя рэферэндуму. Тыя, хто спадзяецца на зрыў плебісцыту, яўна не ўлічвае гэты грамадскі настрой і гатоўнасць людзей прыйсці на выбарчыя ўчасткі. Пра свой намер удзельнічаць у рэферэндуме заявілі 73,8 працэнта апытаных. Да ігнаравання плебісцыту схіляюцца толькі 14,2 працэнта.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 423

# Аб узнагароджанні мнагадзетных маці ордэнам Маці

Узнагародзіць маці, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей, ордэнам Маці:

### па Брэсцкай вобласці

**Азімка Марыю Іосіфаўну** — калгасніцу калгаса «Перамога» Столінскага раёна

**Андрэйчук Святлану Макараўну** — калгасніцу калгаса «За Радзіму» Столінскага раёна

**Буцяец Веру Пятроўну** — даярку калгаса «40 год Кастрычніка» Камянецкага раёна

**Дайлід Марыю Пятроўну** — кантралёра Ганцавіцкага філіяла № 107 Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк»

**Жалезную Яўгенію Сямёнаўну** — даярку калгаса імя Калініна Ганцавіцкага раёна

**Задарожную Алену Міхайлаўну** — калгасніцу калгаса «Рубельскі» Столінскага раёна

**Занька Валянціну Канстанцінаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Малькавічы Ганцавіцкага раёна

**Занька Кацярыну Андрэеўну** — даярку калгаса імя Калініна Ганцавіцкага раёна

**Зіноўчык Лідзію Іванаўну** — рабочую льнозавода «Рубельскі», Столінскі раён

**Злотнік Надзею Арцёмаўну** — даярку калгаса імя Свярдлова Камянецкага раёна

**Кацэвіч Лідзію Навумаўну** — даярку калгаса «Праўда» Камянецкага раёна

**Краўцову Наталлю Іванаўну** — калгасніцу калгаса «Палессе» Столінскага раёна

**Крысюк Валянціну Міхайлаўну** — даярку калгаса імя Кірава Ганцавіцкага раёна

**Лаўранюк Галіну Рыгораўну** — даярку калгаса «Прагрэс» Камянецкага раёна

**Лашка Марыю Міхайлаўну** — палявода калгаса «Бальшавік» Ганцавіцкага раёна

**Лагвіновіч Кацярыну Барысаўну** — работніцу Малькавіцкай сярэдняй школы Ганцавіцкага раёна

**Макатрэвіч Яўгенію Аляксандраўну** — даярку калгаса «Праўда» Ганцавіцкага раёна

**Марыніч Вольгу Рыгораўну** — калгасніцу калгаса «Беларусь» Столінскага раёна

**Мініч Ніну Генадзьеўну** — даярку калгаса імя Кірава Ганцавіцкага раёна

**Пашкевіч Марыю Мікалаеўну** — ветфельчара калгаса «Радзіма» Камянецкага раёна

**Пашкевіч Святлану Іванаўну** — паштальёна аддзялення сувязі «Белавуша», Столінскі раён

**Пытэль Святлану Пятроўну** — калгасніцу калгаса «Беларуская ніва» Столінскага раёна

**Рылка Кацярыну Іванаўну** — даярку калгаса імя Калініна Ганцавіцкага раёна

**Сайка Любоў Іосіфаўну** — работніцу дзіцячага садзіка № 17, в. Малькавічы Ганцавіцкага раёна

**Сайка Вольгу Васільеўну** — загадчыка магазіна Ганцавіцкага райспажыўсаюза

**Сімановіч Вольгу Іванаўну** — калгасніцу калгаса «40 год Кастрычніка» Столінскага раёна

**Сімановіч Марыю Пятроўну** — калгасніцу калгаса «40 год Кастрычніка» Столінскага раёна

**Сцельмашук Валянціну Мікалаеўну** — рабочую дзяржаўнага нацыянальнага парка «Белавежская пушча», Камянецкі раён

**Сяргейчык Таццяну Сцяпанаўну** — палявода калгаса імя Калініна Ганцавіцкага раёна

**Тарасаву Наталлю Анатольеўну** — даярку калгаса «Ленінскі шлях» Камянецкага раёна

**Таргоня Паўліну Васільеўну** — работніцу Вялікамалешаўскай сярэдняй школы Столінскага раёна

**Хандрыка Таццяну Аляксандраўну** — медыцынскую сястру дзіцячага садзіка, в.Чудзін Ганцавіцкага раёна

**Шапялевіч Алену Мікалаеўну** — хатнюю гаспадыню, в.Малькавічы Ганцавіцкага раёна

**Шапялевіч Надзею Пятроўну** — хатнюю гаспадыню, в.Малькавічы Ганцавіцкага раёна

**Шыла Галіну Мікалаеўну** — калгасніцу калгаса імя Чапаева Столінскага раёна

**Шмат Надзею Андрэеўну** — калгасніцу калгаса «За Радзіму» Столінскага раёна

**Шчучку Марыю Іванаўну** — калгасніцу калгаса «Беларуская ніва» Столінскага раёна

**Ярмакевіч Любоў Сцяпанаўну** — калгасніцу калгаса «17 партз'езд» Столінскага раёна

### па Віцебскай вобласці

**Базыленка Валянціну Георгіеўну** — бухгалтара аўтабазы, г.Га[illegible]адок

**Доўгую Ніну Аляксандраўну** — работніцу аптэкі № 73, г.Расоны

**Забароўскую Таццяну Аляксандраўну** — загадчыка гаспадаркі саўгаса «Гвардыя» Расонскага раёна

**Казлоўскую Вольгу Іванаўну** — сакратара Цяцеркаўскага сельскага Савета Браслаўскага раёна

**Карбоўскую Ларысу Аляксандраўну** — майстра Лепельскага камбікормавага завода

**Макаранка Валянціну Васільеўну** — прадаўца гандлёва-прамысловага аб'яднання «Прадукты», Кастрычніцкі раён г.Віцебска

**Пеставу Ірыну Уладзіміраўну** — рабочую саўгаса «Ударнік» Аршанскага раёна

**Скур'ят Тарэсу Міхайлаўну** — ветфельчара калгаса «Далёкія» Браслаўскага раёна

**Тарасаву Галіну Аляксандраўну** — загадчыка бібліятэкі, в.Белева Аршанскага раёна

**Трунову Клаўдзію Паўлаўну** — паштальёна Лепельскага вузла паштовай сувязі

### па Гомельскай вобласці

**Здольнік Кацярыну Міхайлаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Дубовы Лог Добрушскага раёна

**Стасеву Святлану Мікалаеўну** — палявода агракамбіната «Новы шлях» Добрушскага раёна

**Сямёнаву Аксану Яўгеньеўну** — даярку племзавода «Насовічы» Добрушскага раёна

### па Гродзенскай вобласці

**Аляшкевіч Веру Ігнатаўну** — палявода калгаса «Прынёманскі» Навагрудскага раёна

**Балбатун Людмілу Уладзіміраўну** — даярку калектыўна-сялянскай гаспадаркі «Уселюб» Навагрудскага раёна

**Болбат Ірыну Віктараўну** — жывёлавода калгаса «Сцяг працы» Навагрудскага раёна

**Бузук Людмілу Дзям'янаўну** — даярку калгаса «Свіцязь» Навагрудскага раёна

**Буцкевіч Тамару Анатольеўну** — палявода калгаса імя Кірава Навагрудскага раёна

**Быкаву Валянціну Іванаўну** — даярку калгаса імя Дзяржынскага Зэльвенскага раёна

**Гардзіеўскую Станіславу Вікенцьеўну** — бухгалтара калгаса «40 год Кастрычніка» Мастоўскага раёна

**Дмітрэвіч Ванду Тадэвушаўну** — палявода калгаса «Праўда» Навагрудскага раёна

**Драчылоўскую Ірыну Аляксандраўну** — даярку калгаса імя Кірава Навагрудскага раёна

**Дэніс Ганну Мікалаеўну** — аператара свінагадоўчага комплексу калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Занько Ніну Васільеўну** — калгасніцу калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Карповіч Кацярыну Аляксандраўну** — хатнюю гаспадыню, в.Сенна Навагрудскага раёна

**Касарэвіч Ганну Анатольеўну** — повара Пятрэвіцкай сярэдняй школы Навагрудскага раёна

**Клышко Алену Мікалаеўну** — даярку калгаса «Сцяг працы» Навагрудскага раёна

**Кот Леаніду Леанідаўну** — даярку калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Масальскую Людмілу Арсеньеўну** — аператара свінагадоўчага комплексу калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Нагулевіч Наталлю Паўлаўну** — работніцу калектыўна-сялянскай гаспадаркі «Камунар» Навагрудскага раёна

**Нечпай Марыяну Вадзімаўну** — бухгалтара калектыўна-сялянскай гаспадаркі «Камунар» Навагрудскага раёна

**Панамарову Алену Сямёнаўну** — даярку калгаса «Прагрэс» Навагрудскага раёна

**Раманюк Таісу Міхайлаўну** — жывёлавода калгаса «Свіцязь» Навагрудскага раёна

**Рудзевіч Галіну Уладзіміраўну** — даярку калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Самантаву Міраславу Міхайлаўну** — хатнюю гаспадыню, г.Слонім

**Сінкевіч Галіну Яўгенаўну** — калгасніцу калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Фарафонаву Ірыну Рыгораўну** — кантралёра вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Слонімскага гарвыканкома

**Хрэшчык Ганну Станіславаўну** — работніцу дзіцячага садзіка-ясляў № 6 акцыянернага таварыства «Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка»

**Ціхановіч Алу Кірылаўну** — аператара свінагадоўчага комплексу калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна

**Ягаўдзік Ірыну Мікалаеўну** — палявода калгаса імя Дзяржынскага Зэльвенскага раёна

**Яроміч Галіну Мікалаеўну** — псаломшчыка Свята-Мікалаеўскай царквы, г.п.Вялікая Бераставіца

### па Мінскай вобласці

**Барэйка Таісу Іванаўну** — работніцу дзіцячага садзіка калгаса «Маркава» Маладзечанскага раёна

**Карпіцкую Ніну Аляксандраўну** — работніцу фабрыкі мастацкіх вырабаў, г.Маладзечна

**Медашвілі Натэлу Захараўну** — хатнюю гаспадыню, в.Краснае Маладзечанскага раёна

**Юрчэнка Марыну Генрыхаўну** — даярку калгаса «Герой Працы» Маладзечанскага раёна

### па Магілёўскай вобласці

**Азараву Людмілу Іванаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Нівішчы Горацкага раёна

**Арзамасаву Паліну Мікалаеўну** — хатнюю гаспадыню, г.Асіповічы

**Арцюшэўскую Надзею Мікалаеўну** — хатнюю гаспадыню, г.Асіповічы

**Будкову Люсю Пятроўну** — жывёлавода калгаса «Шлях Леніна» Горацкага раёна

**Гарнуш Тамару Іванаўну** — хатнюю гаспадыню, г.Касцюковічы

**Груздову Галіну Васільеўну** — палявода саўгаса «Усход» Горацкага раёна

**Дзялендзік Зою Віктараўну** — даярку калгаса «Радзіма» Глускага раёна

**Дзямбінскую Таісу Іванаўну** — работніцу спецшколы-інтэрната, г. Асіповічы

**Дрэнь Людмілу Мікалаеўну** — швачку-матарыстку бабруйскай фабрыкі «Славянка», г.Асіповічы

**Дудараву Валянціну Пракопаўну** — работніцу гасцініцы «Віхра», г. Мсціслаў

**Ждановіч Любоў Дзмітрыеўну** — рабочую гандлёвага прадпрыемства «Людміла», г.Бабруйск

**Зайцаву Святлану Ягораўну** — кантралёра аўтамабільнага парка № 17, г. Горкі

**Івашкову Раісу Робертаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Бярозаўка Глускага раёна

**Кавальчук Надзею Аляксееўну** — памочніка выхавальніка дзіцячага садзіка № 2, г. Асіповічы

**Казлову Галіну Мітрафанаўну** — паштальёна аддзялення сувязі «Лабковічы», Крычаўскі раён

**Казначэеву Ларысу Уладзіміраўну** — эканаміста аддзела статыстыкі Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі

**Койпыш Маргарыту Уладзіміраўну** — бухгалтара дзяржаўнага прадпрыемства асушальных і арашальных сістэм, г.Асіповічы

**Куляшову Ніну Дзмітрыеўну** — паштальёна аддзялення сувязі «Паршына», Горацкі раён

**Кучарэнка Таццяну Карпаўну** — аператара дзяржаўнага прадпрыемства «Энергія», г. Асіповічы

**Ліневіч Ларысу Адамаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Бярозаўка Глускага раёна

**Максімаўцову Надзею Рыгораўну** — хатнюю гаспадыню, в.Зенянковічы Глускага раёна

**Махнач Людмілу Барысаўну** — работніцу Веснаўскага дома-інтэрната, Глускі раён

**Муха Галіну Анатольеўну** — рабочую Бабруйскага мясакамбіната

**Назараву Таццяну Мікалаеўну** — работніцу спецшколы-інтэрната, г.Асіповічы

**Пастарнак Тамару Віктараўну** — загадчыка ветэрынарнай аптэкі, в.Запруддзе Горацкага раёна

**Пацёмкіну Галіну Васільеўну** — прадаўца магазіна № 17 арэнднага гандлёва-вытворчага прадпрыемства «Асіповічы»

**Сапега Людмілу Мікалаеўну** — повара Веснаўскага дома-інтэрната, Глускі раён

**Сойкіну Любоў Дзмітрыеўну** — работніцу Дома культуры, в.Аўсянка Горацкага раёна

**Халецкую Любоў Уладзіміраўну** — хатнюю гаспадыню, в.Душкі Горацкага раёна

**Хегай Наталлю Мікалаеўну** — паштальёна Асіповіцкага раённага вузла паштовай сувязі

**Цімафеюк Анастасію Пятроўну** — кладаўшчыка ўпраўлення вытворча-тэхналагічнай камплектацыі трэста № 10 «Цэментбуд», г.Касцюковічы

**Цуправу Святлану Паўлаўну** — хатнюю гаспадыню, в.Паршына Горацкага раёна

### па г. Мінску

**Гуменюк Святлану Іосіфаўну** — медыцынскую сястру дзіцячага садзіка № 408, Савецкі раён

**Дзіткоўскую Таццяну Аляксандраўну** — дворніка жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 59, Савецкі раён

**Жукаву Людмілу Міхайлаўну** — дворніка жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 63, Савецкі раён

**Загорскую Галіну Пятроўну** — хатнюю гаспадыню, Савецкі раён

**Занеўскую Зінаіду Канстанцінаўну** — работніцу сярэдняй школы № 66, Савецкі раён

**Касцюк Марыю Паўлаўну** — мантажніцу радыёапаратуры Беларускага вытворчага аб'яднання «БелВАР»

**Пецелава Таццяну Віктараўну** — аператара электронна-вылічальных машын вытворчага аб'яднання «Гарызонт»

**Рачкову Вольгу Мікалаеўну** — дворніка жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 25, Савецкі раён

**Таболіну Галіну Сцяпанаўну** — рэферэнта рэдакцыі газеты «Знамя юности».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*14 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.*

---

*Мінск, 11 кастрычніка 1996 года*

## *Яго Правасхадзіцельству Пану Барысу Ельцыну Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі*

Пан Прэзідэнт!

Глыбокапаважаны Барыс Мікалаевіч!

Гэтыя радкі прадыктаваны шчырым жаданнем умацавання супрацоўніцтва і дружбы народаў нашых дзяржаў. Я звяртаюся да Вас па рашэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і заяўляю наступнае.

Цяпер Рэспубліка Беларусь перажывае даволі востры ўнутрыпалітычны крызіс, звязаны з ускладненнем узаемаадносінаў выканаўчай і заканадаўчай галін улады. Імкнучыся ўрэгуляваць канфлікт, Вярхоўны Савет вітае любыя ініцыятывы і прапановы, накіраваныя на пошук разумнага кампрамісу, на прадухіленне развіцця падзей за рамкамі канстытуцыйнай законнасці.

У сувязі з гэтым выклікае крайняе неўразуменне пазіцыя, прадэманстраваная Міністрам па справах СНД Расійскай Федэрацыі А. Тулеевым у час яго наведання Рэспублікі Беларусь 10 кастрычніка гэтага года. Выступаючы па нацыянальным тэлебачанні, пан А. Тулееў у катэгарычных і неабгрунтаваных меркаваннях проціпастаўляў пазіцыі Прэзідэнта А. Лукашэнкі і Вярхоўнага Савета Беларусі. І што самае дзіўнае, Міністр Расійскай Федэрацыі абвінаваціў парламент Рэспублікі Беларусь у процідзеянні інтэграцыйным працэсам паміж нашымі дзяржавамі. Такія выказванні можна было б яшчэ неяк зразумець і растлумачыць, калі б гэта быў погляд, пазіцыя прыватнай асобы. Але пан А. Тулееў з'яўляецца афіцыйнай асобай — Міністрам па справах СНД Расійскай Федэрацыі.

Грамадскасць рэспублікі была літаральна шакіравана паведамленнем Амана Тулеева аб чатырох (?!) замахах на жыццё Аляксандра Лукашэнкі. Гэтая сенсацыя з'явілася поўным адкрыццём для жыхароў Беларусі.

Такія непрадуманыя, галаслоўныя заявы не толькі ні ў якай ступені не садзейнічаюць вырашэнню канфлікту ўнутры Беларусі, але і наносяць урон развіццю інтэграцыйных працэсаў паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета схільны разглядаць асобныя заявы А. Тулеева як выпадковы эпізод у расійска-беларускіх адносінах.

Беларускі бок выказвае надзею, што ў будучым Міністр па справах СНД Расійскай Федэрацыі А. Тулееў будзе знаходзіць магчымасць для кантактаў з Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і дэпутатамі, якія ўваходзяць у расійска-беларускі Парламенцкі Сход і ствараюць неабходную прававую аснову для развіцця інтэграцыі паміж нашымі дзяржавамі.

Карыстаючыся выпадкам, ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь хачу запэўніць Вас і ў Вашай асобе братні расійскі народ, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зробіць усё, што ад яго залежыць, для развіцця супрацоўніцтва і дружбы Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

Жадаю Вам, паважаны Барыс Мікалаевіч, каб вы як мага хутчэй ачунялі і плённа працавалі на карысць народа Расіі і ўсіх дзяржаў СНД.

**З павагай Сямён ШАРЭЦКІ.**

***Аналагічныя пасланні накіраваны прэм'ер-міністру Расіі В. Чарнамырдзіну, старшыням абедзвюх палат расійскага парламента Я. Строеву і Г. Селязнёву.***

---

# ВЫРАШАЛЬНАЙ ПЕРАВАГІ НЯМА НІ Ў ПРЭЗІДЭНТА, НІ Ў ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Праўда, гэтыя лічбы значна адрозніваюцца ад тых, якія сведчаць пра ўпэўненасць людзей у неабходнасці рэферэндуму менавіта ў цяперашні момант. Пра тое, што правядзенне рэферэндуму цяпер патрэбна, заявілі 47,8 працэнта рэспандэнтаў. (Гэта лічба блізкая да рэйтынгу Лукашэнкі, што схіляе да пэўных высноў.) Не бачаць патрэбы ў рэферэндуме 27,5 працэнта. Яшчэ 20,9 працэнта не змаглі даць адказу на гэта пытанне.

Як людзі ставяцца да канкрэтных фармулёвак, што будуць уключаны ў бюлетэнь? Для пачатку разгледзім пытанні, прапанаваныя Прэзідэнтам.

За праект Канстытуцыі, прыняцця якога дамагаецца Аляксандр Лукашэнка, гатовы прагаласаваць 40,7 працэнта апытаных. Паказчык не безнадзейны, але маласуцяшальны для Прэзідэнта. Варта нагадаць: для таго, каб змены ў Канстытуцыю былі зацверджаны, за іх павінны прагаласаваць больш як 50 працэнтаў усіх выбаршчыкаў, уключаных у спісы.

Супраць прэзідэнцкага праекта Асноўнага закона выступаюць пакуль што 20,3 працэнта апытаных. І нарэшце, вялікая маса насельніцтва — 39,0 працэнта — не вызначылася з адказам. Відавочна, якраз за гэтыя 2/5 электарату і разгорнецца барацьба паміж Прэзідэнтам і яго палітычнымі апанентамі на заключным этапе падрыхтоўкі да рэферэндуму.

Як і можна было чакаць, пытанне пра перанос Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня аказалася незразумелым для значнай часткі насельніцтва. 36,9 працэнта апытаных пакуль не ведаюць, як на яго адказаць. Падтрымліваюць ідэю з пераносам 35,6 працэнта рэспандэнтаў; выступаюць супраць — 27,5 працэнта. Пры такім раскладзе відавочна, што ролю ідэалагічнага каталізатара гэтае пытанне (у адрозненне ад колішніх пытанняў пра статус рускай мовы і змену дзяржаўнай сімволікі) наўрад ці выканае.

Ужо сёння відавочна, што па астатніх двух пытаннях народ выкажацца амаль адназначна: выступіць супраць адмены смяротнага пакарання ( за адмену — 20,6 працэнта; супраць — 72,5) і супраць свабоднай, без абмежаванняў, куплі-продажу зямлі (за — 28,0 працэнта; супраць — 51,9). Зрэшты, у адносінах да пытання аб зямлі магчымы і нечаканасці — перавага праціўнікаў гандлю зямлёй не надта пераканаўчая.

Як і можна было чакаць, шанцаў на прыняцце праекта Канстытуцыі, прапанаванага парламенцкімі фракцыямі камуністаў і аграрыяў, няма ніякіх. За парламенцкую (без Прэзідэнта) рэспубліку гатовы прагаласаваць усяго 9,4 працэнта апытаных; супраць — 33,9 працэнта. Але наконт гэтага пытання не вызначылася вялікая частка насельніцтва — 56,8 працэнта. Патэнцыяльна гэтыя людзі ў апошні момант і здольны вырашыць лёс усяго галасавання: напрыклад, прагаласаваўшы за абодва праекты Канстытуцыі ці выказаўшыся супраць абодвух. Па вялікаму рахунку, такую мэту і ставілі ініцыятары «парламенцкага» рэферэндуму. І шанцы на поспех у іх не такія ўжо і малыя.

Асабліва ўлічыўшы тое, што Вярхоўны Савет фактычна гарантаваў сабе перамогу па пытанню наконт выбараў кіраўнікоў мясцовай «вертыкалі» і фінансавання органаў дзяржаўнай улады. За прамыя выбары кіраўнікоў мясцовых выканкомаў гатовы выказацца 86,2 працэнта апытаных, супраць — усяго 3,3 працэнта. Можна ўявіць, як даліся ў знакі радавым выбаршчыкам мясцовыя начальнікі, якія не адчуваюць ніякай сваёй залежнасці ад «нізоў». Нават калі Прэзідэнту ўдасца дабіцца прыняцця новай Канстытуцыі, якая значна расшырае яго ўладу, вынікі рэферэндуму наконт мясцовай «вертыкалі» здольны істотна падкарэкціраваць магчымую перамогу. Прамыя выбары кіраўнікоў мясцовых адміністрацый аўтаматычна аслабляюць цяперашнюю непадзельную ўладу зверху над рэгіёнамі і ствараюць у краіне многа новых полюсаў улады, якія здольны процістаяць цэнтру.

Актуальнае для краіны і пытанне пра «галоснае і выключна з дзяржаўнага бюджэту фінансаванне ўсіх галін улады». За такі парадак гатовы прагаласаваць 79,2 працэнта апытаных, супраць — 7,7 працэнта. Зразумела, што гэта таксама напрамую закране Прэзідэнта і некаторыя створаныя ім структуры, якія ў расходаванні дзяржаўных сродкаў не схільны падпарадкоўвацца Вярхоўнаму Савету.

Такім чынам, вынікі апытання паказваюць, што рэферэндум (незалежна ад даты яго правядзення) здольны паднесці нямала сюрпрызаў. І, прынамсі, на адназначную перамогу і трыумф не можа разлічваць ніводзін з канфліктуючых бакоў.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 38 (57)**

**СМАРГОНСКІ АГРЭГАТНЫ ЗАВОД**
*Тэл./факс (8-01592) 2-29-33, 2-26-68*

**ПРАПАНУЕ**

- **міні-трактар** МТЗ-082 BS (прывод на 4 колы, рухавік «Briggs & Stratton» бензінавы, 4-тактны, магутнасць 14,5 к.с.)
- **навеска да міні-трактара** (прыцэп аўтамабільны, культыватар, граблі, плуг, барана, акучнік, глебафрэза, сенакасілка, бульбакапальнік)
- **мотаблок МТЗ-06** (аднацыліндравы, магутнасць 5 к.с.)
- **мотаблок МТЗ-12** (двухцыліндравы, магутнасць 10 к.с.)
- **навеска да мотаблока** (прычэп да мотаблока, акучнік, счэпка універсальная, плуг, культыватар, барана)

***Зрабіце правільны выбар!!!***

**ТОСОЛ-А40М**
Производство ПО «АЗОТ» г. Гродно
Тел./факс: (017) 245-42-40, 245-50-12, 245-78-09.

Тэатр «Вольная сцэна»
17,18 кастрычніка
прэм'ера
**«МАКБЕТ»**
Пачатак спектакляў у 19 гадзін
Тэл. 234-60-08

**ПЛАСТЫКАВЫ ПРАЯЗНЫ «АПРАНЕЦЦА» ВА УНІВЕРСАЛЬНЫ ЧАХОЛЬЧЫК**

Многа нараканняў выклікала ўвядзенне ў сталічным транспарце пластыкавага праязнога, якасць якога відавочна не задавальняе пасажыраў. І вось — новая напасць! На гэты раз праблемай для транспартнікаў стаў... клей, пры дапамозе якога на праязны прымацоўваецца марка. Справа ў тым, што рэшткі на магнітнай картцы нават самага высакаякаснага клею валодаюць непрыемнай уласцівасцю выводзіць счытвальныя прыстасаванні ў турнікетах метрапалітэна са строю. Каб неяк выратаваць сваю апаратуру, транспартнікі прыдумалі «апрануць» свой праязны ва універсальны ахоўны чахольчык. Пакуль навінка, якая «праглыне» магнітную картку, знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі.

Перамовы аб яе масавым выпуску цяпер вядуцца транспартнікамі сталіцы з кіраўніцтвам завода «Тэрмапласт».

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

ИНФОРМАЦИОННЫЙ КАТАЛОГ
**ОПТОВАЯ ТОРГОВЛЯ БЕЛАРУСИ**

Это профессиональный справочник для руководителей предприятий и фирм, служб маркетинга и сбыта. Реклама в каталоге "Оптовая торговля Беларуси" престижна и делает фирму широко известной не только в Беларуси, но и за ее пределами.

**Приглашаем к сотрудничеству рекламные агентства и агентов.**

НТЦ
тел. 262 406, 262 415

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## У прадпрымальнікі пайду...

**Не сакрэт, што больш як палова ствараемых малых прадпрыемстваў гінуць у першы ж год і, часта, з-за недастатковага прафесіяналізму прадпрымальнікаў.**

Міністэрствам адукацыі і навукі нядаўна зацверджана Канцэпцыя падрыхтоўкі грамадзян Рэспублікі Беларусь да прадпрымальніцкай дзейнасці.

Больш як палова навучальных устаноў рыхтуюць спецыялістаў-прадпрымальнікаў вышэйшага звяна па спецыяльнасцях: эканоміка і кіраванне прадпрыемствам, менеджмент, маркетынг, камерцыйная дзейнасць, планаванне і бухгалтарскі ўлік, прадзюсерства і інш.

Сярод сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў (ССНУ) толькі 7 працэнтаў рыхтуюць камерсантаў, маркетолагаў, бухгалтараў малых прадпрыемстваў і іншых спецыялістаў сярэдняга звяна, хоць, як сведчаць даныя аб прыёмах, цікавасць моладзі да гэтых спецыяльнасцей расце і попыт на выпускнікоў вялікі. Акрамя пашырэння маштабаў падрыхтоўкі гэтых спецыялістаў ССНУ павінны арганізаваць шырокую падрыхтоўку да прадпрымальніцкай дзейнасці навучэнцаў, якія атрымліваюць традыцыйныя спецыяльнасці. Без значных затрат часу яны могуць атрымаць веды і ўменні, дастатковыя для арганізацыі малых прадпрыемстваў у сферы вытворчасці тавараў і аказання паслуг насельніцтву па профілю асноўнай прафесіянальнай падрыхтоўкі навучэнцаў (швейныя, абутковыя майстэрні, атэлье па аказанню цырульніцкіх і касметычных паслуг, фотаатэлье, прадпрыемствы па вытворчасці вырабаў з дрэва, магазіны).

Прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы пакуль мала ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы моладзі да прадпрымальніцкай дзейнасці, хоць большая частка іх можа і павінна рыхтаваць рабочых традыцыйных прафесій для заняткаў індывідуальным прадпрымальніцтвам (індывідуальнай працоўнай дзейнасцю).А замежны вопыт сведчыць і аб неабходнасці падрыхтоўкі ў ПТВ малодшых спецыялістаў для прадпрымальніцкіх структур: сакратароў, справаводаў, экспедытараў.

Параўнальны аналіз вучэбных планаў і праграм, распрацаваных рознымі навучальнымі ўстановамі, сведчыць аб надзвычайнай стракатасці зместу і аб'ёму матэрыялу, а часта і адсутнасці сувязі яго з рэальнымі ўмовамі жыцця ў Беларусі.

**Рэалізацыя Канцэпцыі падрыхтоўкі грамадзян да прадпрымальніцкай дзейнасці дасць магчымасць павысіць тэмпы развіцця прадпрымальніцтва, зменшыць колькасць малых і сярэдніх прадпрыемстваў, якія распадаюцца, і скараціць колькасць беспрацоўных.**

**Юрый КРЫЧЭЎСКІ,**
**загадчык сектара новых прафесій Рэспубліканскага інстытута прафесіянальнай адукацыі.**

## ВІНШУЕМ!

*Віншуем унучку Аліну і дачку Святлану Якаўлеўну СЦЯБУЛЮ з г. Мінска з днём нараджэння.*
*Жадаем шчасця, здароўя, радасці і дабрабыту*

**Маці, бацька, в. Тонеж.**

*Любімага мужа Канстанціна Пятровіча КАВАЛЬКОВА жонка Люба віншуе з днём нараджэння. Жадае моцнага здароўя, доўгалецця.*

**г. Гомель.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Зінаіду Серафімаўну КАРПОВІЧ з г. п. Мір. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, усіх даброт.*

**Гардзей, Хіневічы.**

*Віншуем з днём нараджэння Валянціну Вітальеўну АЎРАМЕНКА, класнага кіраўніка 7 Б класа Цярэшкавіцкай СШ. Жадаем Вам, каб заўсёды заставаліся маладой, энергічнай, вясёлай і шчаслівай.*

**Удзячныя бацькі і вучні.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Аляксандра ЯЦКЕВІЧА і яго дачку Вікторыю з Лагойска. Шчасця і дабрабыту вам.*

**Наташа і Лена.**

*Віншуем з днём нараджэння Анастасію Сцяпанаўну ЛАЗАВІК з г. Рагачова. Мы ўдзячныя табе за клопаты, турботы, ласку. Жадаем здароўя і даўгалецця.*

*Віншуем Таццяну КРЫШТАПЯН з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, радасці ў сям'і, любові.*

**Бацькі, муж, г. Маладзечна.**

## ДАПАМАЖЫЦЕ!

6 ліпеня 1996 года, недзе ў 17 гадзін, каля вёскі Сітцы Докшыцкага раёна машынай ГАЗ-53 быў зроблены наезд на дзесяцігадовага хлопчыка, які ў выніку атрыманых пашкоджанняў памёр. Хлопчык рухаўся на веласіпедзе.

Зараз гэтая справа знаходзіцца на расследаванні ў Докшыцкім РАУС і мяркуецца быць закрытай (так, прынамсі, было аб'яўлена нядаўна родным загінуўшага) з-за «адсутнасці ў дзейнасці вадзіцеля саставу злачынства». Сведак гэтай трагедыі родныя просяць звярнуцца з адпаведнымі паказаннямі ў Докшыцкі РАУС. (Тэл. 54-03-49), альбо да жыхароў вёскі Сітцы сп. Жалевічаў (дзеда і бабы загінуўшага).

Дапамажыце, калі ласка!

Пейджинговую связь редакции обеспечивает компания
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
**тел. 78-08-98**

**Тэрмінова прадаецца дом з усімі выгодамі ў г. Стоўбцы.**
**Тэл. 5-33-36 (званіць пасля 19 гадзін).**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 268-28-77.**

**ЗЕНИТ • ZENIT**
Вилейский завод «Зенит»
- фотоаппараты,
- прицелы оптические,
- прицелы ночного видения,
- медоборудование,
- карбюраторы и магнето

Тел./факс: (8-01771) 5-31-89, 5-36-92.

## ПРАДАЕЦЦА:

❑ Дом 60 кв. м, хлеў, лазня, участак 20 сотак, побач станцыя Дашкаўка — 2500 $. Тэл. у Магілёве 42-67-56.

❑ Аўтамабіль «ГАЗ-69», цана дагаворная. Тэл. у Барысаве (8-277) 2-39-60 пасля 18.00

❑ Новае жаночае кашміравае дэмісезоннае паліто, размер 54/4, светла-карычневае (Рым—Парыж—Лондан), 2.500.000 руб. Тэл. у Магілёве 26-10-08.

❑ Рухавік УМЗ-ГА. Кабыла (4 гады). Звяртацца: Полацкі раён, п/а Двор-Гошаль. Тэл. 99-3-31, Яноўскі.

❑ Карова (7 гадоў), цельная. Звяртацца: Мінская вобл., Пухавіцкі раён, Вецярэвіцкі с/с, в. Протасаўшчына. Гілеўскаму. Тэл. (8-213) 96-4-62, тэл. у Мінску — 221-83-45.

❑ Дом з гаспадарчымі пабудовамі, садам, 5 км ад Валожына, участак 30 сотак. Тэл. (8-272) 4-33-66.

❑ Жарэбчык 8 месяцаў у в. Паланечка Баранавіцкага раёна. Тэл. 3-95-36, Бубноўскі.

❑ Дахавае жалеза ў в. Шэпічы Клецкага раёна. Тэл. 31-6-30, Галіцкая.

❑ Тэрмінова дом з усімі гаспадарчымі пабудовамі і новым зрубам 4х4, сад, участак, 20 сотак, нядорага. Лагойскі раён, в. Гасцілавічы, д. 107, Лагуноўская.

❑ Міні трактар 082 з усімі агрэгатамі ў в. Слабада Мядзельскага раёна, танна. Тэл. (8-297) 56-6-74.

❑ Старыя патэфонныя пласцінкі, патэфон. Звяртацца: 211460, Віцебская вобл., Расоны, а/с 27.

❑ «УАЗ-469», 7-месны, г/п 700 кг. 1987 г. в. у добрым стане, кап. рамонт рухавіка ў 1994 г., 2500 $, альбо мяняю на л/а пасля 87 г. в. Тэл. (8-272) 5-82-90 пасля 17.

❑ Танна дом 6,5х12 м на хутары ў Віцебскай вобл., участак 1,2 га, сад, склеп. Па жаданню — трактар «МТЗ». Тэл. у Мінску (8-017) 230-92-39.

❑ Дом 56 кв. м з гаспадарчымі пабудовамі, зямля, лес, возера. Віцебская вобл., Лепельскі раён. Тэл. (8-02132) 2-69-58.

❑ Трактар «МТЗ», рухавік. Тэл. (017) 242-84-18.

❑ Дом 4-пакаёвы ў курортнай зоне каля Чорнага мора, участак 33 соткі, падвал 3х6, вінаграднік. Тэл. у Гомелі 53-13-04.

❑ Жарэбчык (нядорага) у в. Старынкі Дзяржынскага раёна. Тэл. (8-216) 3-61-13.

❑ Паркет, дуб, 120 кв. м. Тэл. у Мінску: 227-39-22, 238-94-32

❑ Новы дом (60 км ад Мінска) з мансардай, без унутраных работ, участак 8 сотак, нядорага. Тэл. (8-293) 34-4-52 увечары.

❑ Часнок зімовы, 1 шт. — 5 тыс. руб., з улікам перасылкі. Звяртацца: 231232, Гродзенская вобл., Астравецкі раён, п/а Падольцы, Юховіч І. В.

❑ Каляска інвалідная новая, складная, з запаснымі часткамі. Тэл. 234-43-02.

❑ Аўтамабіль «ВАЗ-21011» 1975 г. в. у добрым стане. Тэл. 228-18-66, г. Мінск.

❑ «ГАЗ-69А» з запчасткамі, кап. рамонт — 1995 г., ТА да 1998 г. у Нясвіжы. Тэл. 5-56-50, Анатоль.

❑ Новы рухавік і вілка да матацыкла «ІЖ-Планета-4, цана 160 і 40 $ адпаведна. Тэл. у Драгічынскім раёне 54-2-77.

## РОЗНАЕ

- Вышлю сачыненні Лермантава ў 2-х тамах, практычны дапаможнік «сляпога» 10-пальцавага метаду машынапісу, пласцінку Р. Ларэці — запісы 1960 г. Усё ў выдатным стане, высылайце канверт з адрасам і купон.
223310, Беразіно, п/с 681034.

- Мяняю 2-пакаёвую кватэру з пабудовамі (хлеў, падвал) у пас. Бярэзінскім Маладзечанскага раёна, на 1- альбо 2-пакаёвую ў Оршы.
Тэл. у Оршы 3-69-06.

# «...УЗДЫМАЙСЯ НА БОЙ – АДПЛАЦІЦЬ ЗА ЗЯМЛЮ»

**У народнай памяці 1937 год застаўся як год вялікай трагедыі, якая забрала мноства ні ў чым не вінаватых людзей, трапіўшых пад каток палітычнага тэрору. Але і ў той час рабочыя, сяляне, інтэлігенты працавалі на фабрыках і заводах, калгасных палях і фермах, у навуковых лабараторыях, ствараючы для сваёй краіны матэрыяльныя і духоўныя даброты. Моладзь вучылася. Юнакі і дзяўчаты зайздросцілі чырвоным камандзірам, героям-лётчыкам, адважным палярнікам, імкнуліся стаць падобнымі да іх. У архіўных сховішчах ад таго часу засталося нямала сведчанняў аб розных баках і праявах грамадскага жыцця, якія гавораць, што маляваць тое далёкае мінулае толькі ў чорных фарбах было б парушэннем гістарычнай аб'ектыўнасці. Жыццё заўжды багацейшае за любыя схемы, яно саткана з супярэчнасцей, шматграннае і шматколернае нават і на агульным трагічным фоне.**

**У гэтай публікацыі прыводзіцца толькі некалькі замалёвак з народнага жыцця, якія дайшлі да нас з 1937 года — вядомага і невядомага.**

## 1. «НЕ ТОЛЬКІ ПАКАЗВАЮ ЦЯЖКАЕ ЖЫЦЦЁ СЕЛЯНІНА, АЛЕ І ЗАКЛІКАЮ ДА БАРАЦЬБЫ»

У пачатку сакавіка 1937 г. на стол рэдактару газеты «Звязда» Д. В. Юркову паклалі ліст, прысланы з Крычаўскага раёна вучнем 7 класа Ягорам Калбеевым. Гэта быў верш пад назвай «Песня мужыка» з каментарыямі аўтара. У звароце да рэдакцыі гаварылася: «Верш гэты напісаны 26/II-37 г. вучнем 7-га класа, сынам мужыка-калгасніка, які пад прыгнётам мясцовай улады гіне з голаду. У калгасах беларускай рэспублікі ад засухі атрымаўся вялікі недарод. Калгаснікі стараюцца ўцячы на заводы, каб не пагінуць. Калгасы ад недахопу рабочай сілы аказаліся ў паўразваленым выглядзе. Людзі чакаюць, ці не распусцяць калгасы. Яны хочуць атрымаць свае землі. Але цёмныя народныя масы не могуць выказаць сваіх патрабаванняў. І вось выразнікам народнай мары з'яўляюся я...»

Прачытаўшы верш, рэдактар адразу ж накіраваў яго ў ЦК КП(б)Б з прыпіскай «дасылаецца да ведама». Верш захаваўся ў архіве. Хаця на вялікія мастацкія вартасці ён, як гавораць, «не цягне» (пісаў усё ж вучань 7 класа), але па свайму зместу заслугоўвае увагі, бо ў ім таксама адлюстравана на ўзроўні юнацкай свядомасці адна са старонак быцця тагачаснай вёскі. Таму верш (у скарочаным выглядзе) і прапануецца чытачу.

*ПЕСНЯ МУЖЫКА*
*Я мужык-трудавік*
*Зношу лаянкі, крык,*
*на зямельцы я ўзрос,*
*да зямелькі прывык.*
*А цяпер у мяне*
*адабралі зямлю*
*і ў калгас аддалі —*
*а я з голаду мру.*
*Я ўсё лета араў,*
*малаціў і касіў,*
*Людзям сена наклаў —*
*а сабе не прасіў.*
*Я ўсё збожжа сабраў*
*і ў гуменца ўсё звёз,*
*Змалаціў, абсушыў*
*і дзяржаве адвёз.*
*А хто есць, і каму —*
*я не знаю, завёз,*
*толькі знаю, што сам*
*вазьму фігу пад нос.*
*Эх, мужык ты, жабрак,*
*шмат ты гора пражыў,*
*і памрэш, як не ў знак —*
*бы на свеце і не жыў.*
*Ты будуеш масты*
*і лясы ты сячэш,*
*сабе печ пратапіць —*
*стару лаву нясеш.*
*Выйду ў поле, стаю,*
*збожжа сумна шуміць,*
*пагляджу на жыццё —*
*галава забаліць.*
*Надыходзіць вясна,*
*трэба ехаць араць,*
*няма нават зярна —*
*у рот нечага ўзяць.*
*Дык дакуль жа, мужык,*
*гэтак будзеш стагнаць —*
*час прышоў, брат, пара*
*за сябе пастаяць.*
*Вазьмі востру касу*
*і сякеру сваю,*
*уздымайся на бой —*
*адплаціць за зямлю.*

Напісаў Ягор Калбееў, прашу замяніць — Ягор Бяздольны».

Далей аўтар верша пісаў: «У мужыка няма каровы, няма каня, зямлі, а падаткі трэба плаціць... Мужык цёмны, бескультурны, жыве ў безваконнай хаце, дзе холад, хваробы, ён шмат працуе, а жыве галодны, і таму зварочваецца да Сталіна:

*Ты жывеш як бы на небе —*
*Чаму не думаеш аб хлебе?..*

На мужыка звярніце хоць трошкі ўвагі як на галоўнага кармільца рабочых і служачых. Мужык гіне, але галоўная ўлада не зварочвае на гэта ніякай увагі. Таму ён заяўляе:

*Мужык з голаду гнецца ў крук —*
*як на гэта глядзіце?*
*Вы сячэце той сук,*
*на якім самі сядзіце!»*

*Ліст заканчваўся словамі:*

*«У вершы «Песня мужыка» я паказваю цяжкае становішча мужыка, не толькі паказваю, і заклікаю да вызвалення шляхам барацьбы.*

*Адрас мой: Крычаўскі раён, пошта Малявічы, Кашанскі с/с, вёска Ананічы, Калбееву Ягору Яўхімавічу. 27/II-37 г.».*

## 2. «ЗА СТАХАНАЎСКІЯ МЕТАДЫ ПРАЦЫ ЎЗНАГАРОДЗІЦЬ І ПРЭМІРАВАЦЬ...»

3 лістапада 1937 года ў ЦК КПБ(б)Б атрымалі наступную тэлеграму:

*Тэлеграма*
*Мінск Цэка Капэбэ Волкаву*
*Саўнаркам Кавалёву*
*газеце Звязда*
*Мінск—Лельчыцы Бел.*

*2-га лістапада стаханаўкай сельгасарцелі «Трэці Інтэрнацыянал» Стасенка Марыяй Рыгораўнай устаноўлены рэкорд у ручной апрацоўцы льну За дзесяцігадзінны рабочы дзень натрапала 113,6 кілаграмаў ільну 119,1 пянькі разам 232,8 кілаграмаў Заработак гэтага дня складае 58 працадзён*

*Гэтым рэкордам Стасенка перакрыла свой папярэдні рэкорд, устаноўлены 24 кастрычніка, 167 кілаграм*

*Кірыенка*

Тэлеграму падпісаў сакратар Лельчыцкага райкома партыі. Выконваючы абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б А. А. Волкаў адразу ж налажыў рэзалюцыю: «Праверыць і ўзняць гэты факт. 4.XI.». Правесці праверку ў адпаведнасці з патрабаваннямі таго часу было даручана сакратару Мазырскага акругкома партыі Д. Ф. Маркіну. Загадчык асобага сектара ЦК пісаў у гэтай сувязі:

*«Тав. Волкаў просіць асабіста цябе, т. Маркін, паехаць у калгас «III Інтэрнацыянал», дакладна праверыць усю работу брыгады т. Стасенка і яе асабіста, праверыць работу калгаса, адносіны калгаснікаў да Стасенка і яе брыгады, меркаванне аб прэміраванні яе брыгады, праверыць палітычны твар кожнага члена брыгады. Пасля заканчэння праверкі напісаць у ЦК КП(б)Б т. Волкаву дакладную запіску...»*

На выкананне даручэння адводзіліся тры дні. Адказ быў атрыманы 19 лістапада 1937 г.:

*Сакратару ЦК КП(б)Б*
*тав. Волкаву*
*Дакладная запіска*
*[...]*

*Палітычны твар калгаса. У 1937 г. у калгасе была выкрыта і забрана паўстанцкая група ў колькасці 20 чал., у 1935—1936 гг. таксама было забрана каля 20 чал. Сляды гэтых груп яшчэ засталіся і да гэтага часу. Гэта можна паказаць тым, што некаторыя калгаснікі, з якіх большая частка жанчыны, адмаўляюцца выходзіць на працу, матывуючы патрабаваннем: вярніце майго мужа і г. д.*

*Па нацыянальнасці ў калгасе ёсць палякі, немцы і меншая частка беларусы.*

*Агульны настрой калгаснікаў добры. Калгасніца Фендлер Вольга са звяна стаханаўкі Стасенка гаворыць: толькі цяпер, дзякуючы таму, што з калгаса забралі шкоднікаў, калгас эканамічна стаў моцным, і той, хто працуе чэсна, добра і атрымлівае — у 1937 г. у пяць разоў больш, чым у 1936 г. У калгасніцы Фендлер муж і дачка працуюць у калгасе.*

*У звяне Стасенка працуюць: Фендлер Вольга, Чардзюк Каця, Баузун Алена, Пардан Стася. Ва ўсіх пералічаных асоб адмоўных момантаў (сувязі з ворагамі народа, выкрытых, арыштаваных і г. д.) не выяўлена. Што датычыцца Пардан Стасі, то бацька яе, па прозвішчу Грычан, быў арыштаваны як польскі шпіён. (Пардан Стася жыве ў цёткі, пад яе прозвішчам — Пардан.)*

*Палітычны твар стаханаўкі Марыі Стасенка. [...] У 1929 г. выйшла замуж за Стасенку (кандыдат у члены партыі), які зараз працуе старшынёю сельсавета. Старэйшы брат Марыі Стасенка Журовіч Васіль жыў у гор. Ленінградзе, працаваў у порце. Са слоў Марыі Стасенка, у 1936 г. быў з Ленінграда разам з сям'ёю сасланы ў Сібір. Гэты брат, Журовіч В., і па цяперашні час мае сувязь з маці Марыі Стасенка. Малодшы брат Марыі Стасенка Журовіч Мартын, працуючы старшынёю калгаса ў вёсцы Злодні, праводзіў антысавецкую і шкодніцкую дзейнасць, за што нарсудом Лельчыцкага раёна ў 1937 г. быў асуджаны.*

*Марыя Стасенка, па водгуках калгасніц, вельмі добра працуе, паказвае стаханаўскія метады на ўсіх сельгасработах, дзе б яна ні працавала (уборка збожжавых, копка бульбы, догляд ільну, апрацоўка тэхнічных культур і г. д.). Стасенка Марыя сярод калгаснікаў і калгасніц карыстаецца аўтарытэтам. Метады яе працы пераймаюць іншыя звенні калгасніц, якія, па яе прыкладу, таксама даюць добрыя паказчыкі. Так, звеннявая калгасніца Маркоўская на працягу 9 гадзін натрапала 170 кілаграмаў ільновалакна; звеннявая калгасніца Бух Люся за 9 гадзін натрапала 197 кілаграмаў ільновалакна. Звеннявая Марыя Стасенка зарабіла за 10 гадзін 58 працадзён, а яе звяно, у колькасці 5 калгасніц, па 25 працадзён кожная. Звеннявая Бух зарабіла за 9 гадзін 49 працадзён, а яе звяно, у колькасці 6 чалавек, па 20 працадзён кожная.*

*[...]*

*Вакол гэтых стаханаўскіх метадаў працы акругкомам КП(б)Б шырока разгорнута масава-тлумачальная работа па ўсёй акрузе.*

*В. а. сакратара Мазырскага АК КП(б)Б (Маркін)*
*19.XI.1937 г.*
*г. Мазыр».*

Далей была тэлеграма ў калгас «Трэці Інтэрнацыянал» на імя Марыі Рыгораўны Стасенка з віншаваннем яе асабіста і ўсіх членаў брыгады з дасягнутай рэкорднай перамогай. «ЦК КП(б)Б і Саўнаркам БССР, — гаварылася ў ёй, — упэўнены, што Ваша брыгада і надалей будзе ў перадавых шэрагах стаханаўцаў сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Помніце словы таварыша Сталіна, што жанчына ў калгасах — вялікая сіла». Сакратар ЦК КП(б)Б А. А. Волкаў і старшыня СНК БССР А. Ф. Кавалёў, якія падпісалі тэлеграму, паведамлялі, што ЦК і СНК увайшлі з хадайніцтвам у ЦВК БССР аб узнагароджанні М. Р. Стасенка і прэміраванні членаў яе звяна. Прывітанне перадавалася ўсім членам калгаса.

Пастанова ЦВК БССР была такой:

*«Аб узнагароджанні брыгады калгасніцы Стасенка Марыі калгаса «III Інтэрнацыянал» Лельчыцкага раёна*

*1. За стаханаўскія метады работы і ўстанаўленне некалькіх рэкордаў па апрацоўцы льну і пянькі ўзнагародзіць Ганаровай граматай ЦВК БССР калгасніцу-стаханаўку Стасенка Марыю Рыгораўну.*

*2. Прэміраваць каштоўнымі падарункамі брыгаду калгасніцы Стасенка М. Р.:*

*а) Стасенка Марыю Рыгораўну — швейнай машынай і 500 руб. грашыма;*

*б) Пардан Анастасію Мікалаеўну — патэфонам і 200 руб. грашыма;*

*в) Чардзюк Кацярыну Карлаўну — патэфонам і 200 руб. грашыма;*

*г) Баузун Алену Васільеўну — патэфонам і 200 руб. грашыма;*

*д) Фендлер Вольгу Іосіфаўну — швейнай машынай і 200 руб. грашыма;*

*е) Пардан Стасю Іосіфаўну — патэфонам і 200 руб. грашыма.»*

## 3. «СВОЙ БЮЛЕТЭНЬ АПУШЧУ З ДУМКАЙ ПРА ВЯЛІКАГА СТАЛІНА»

1937 год — год выбараў у Вярхоўны Савет СССР, якія праводзіліся па новай Канстытуцыі, што атрымала назву сталінскай. Ход перадвыбарнай кампаніі шырока асвятляўся ў прэсе. У ліку першых кандыдатаў у дэпутаты паўсюдна былі вылучаны члены палітбюро ЦК ВКП(б) на чале з Генеральным сакратаром І. В. Сталіным.

У той жа час кіраўніцтва ЦК КП(б)Б атрымлівала паведамленні пра выказванні зусім іншага характару, якія адзначаліся ў сельскіх раёнах Беларусі амаль паўсюдна. Вось выпіскі толькі з дзвюх спецзводак, дасланых 20 і 23 лістапада пад грыфам «строга сакрэтна» наркомам НКУС БССР Б. Д. Берманам сакратару ЦК КП(б)Б А. А. Волкаву. Характэрна, што нарком называе і меры, якія адразу ж былі прыняты па выказваннях і прапановах, прызнаных варожымі:

*«Клімавіцкі раён. На перадвыбарным сходзе ў калгасе «Эмес» Раднянскага сельсавета калгаснік Кац Сямён адкрыта і рэзка выступіў супраць кандыдатуры т. Сталіна.*

*Арыштаваны.*

*Чавускі раён. У калгасе «Ленінскі шлях» Долаў выступіў адкрыта супраць т. Сталіна. Аналагічнае выступленне было ў калгасе «Перамога» з боку Барадоўскага.*

*Абодва арыштаваны.*

*Заслаўскі раён. На сходзе ў вёсцы Кашкі пры абмеркаванні кандыдатур Далікат выступіў супраць т. Сталіна і т. Варашылава.*

*Далікат арыштаваны.*

*Полацкі раён. У УВСР-51 на сходзе старшыня рабачкома Смаляк выставіў кандыдатуру ворага народа Убарэвіча.*

*Арыштаваны.*

*Гор. Мінск. Пісьменнік Глебка выказваў незадавальненне тым, што ў склад кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета не выстаўляюць Якуба Коласа і Янку Купалу.*

*Глебка распрацоўваецца.*

*Талачынскі раён. Рабочыя Азерацкага лесазавода выйшлі на дэманстрацыю са сцягам з надпісам прозвішча ворага народа Чарвякова.*

*Вядзецца следства.*

*Жлобінскі раён. У калгасе «Чырвоная ніва» Мінянкоў вёў контррэвалюцыйную агітацыю за вылучэнне кандыдатуры Рыкава. У калгасе «Чырвоны трактарыст» аднаасобнік Буранкоў заявіў: «Чаму вылучаюць Сталіна і Молатава і не вылучаюць Галадзеда?» Севасцьянчык Фёдар (Кабанаўскі сельсавет) агітаваў калгаснікаў, каб яны не галасавалі за тав. Сталіна.*

*Мінянкоў, Буранкоў і Севасцьянчык арыштаваны».*

Палітданясенні паступалі ў ЦК КП(б)Б і з райкомаў партыі. Цікавы выпадак з перадвыбарных падзей апісаны ў паведамленні з Пухавіцкага раёна:

*АКПО — ЦК КП(б)Б.*
*Палітданясенне.*
*20 лістапада 1937 г.*

*Даводжу да Вашага ведама, што пры правядзенні старшынёй Варашылаўскага с/с Таразевічам перадвыбарнага калгаснага сходу ў калгасе «Культура» па абгаварэнню і выдзяленню кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР калгаснікі выказалі палітычны недавер старшыні с/савета Таразевічу, адхілілі яго ад правядзення сходу, абвінавацілі як польскага шпіёна і патрабавалі ад мяне звязаць яго і даставіць у раён. Мною былі пасланы ў 2 гадзіны ночы намеснік т. Валасевіч і начальнік НКУС т. Ярмоленка ў калгас «Культура», дзе праходзіў сход. На гэтым сходзе было ўстаноўлена, што Таразевіч, працуючы старшынёю с/савета, праводзіў контррэвалюцыйную работу, займаўся паборніцтвам з калгаса, незаконна праводзіў забіранне маёмасці ад аднаасобных гаспадарак і прысвойваў сабе рэчы.*

*Пры забранні маёмасці ў грна Хурса Таразевіч выцяў яго жонку так, што яна праз ноч нарадзіла нежывое дзіця. Гэты бандыт заяўляў: «Каму цяпер верыць, партыі ці трацкістам?» Кіруючы гуртком па вывучэнню палажэння аб выбарах у Вярхоўны Савет СССР, заняткі праводзіў разам з папом, у канцы заняткаў поп падагульняў прапрацаваны раздзел палажэння. Гэты бандыт быў выключаны на бюро з партыі, выведзены з складу прэзідыума і пленума с/с у 2-дзённы тэрмін. Утворана следства, і ён пасаджаны як вораг народа, а разам з ім пасаджаны яго сябра поп.*

*6-га лістапада 1937 года ў мястэчку Талька ворагамі народа была парэзана шыя ў партрэце тав. Сталіна... Зараз праводзіцца расследаванне органамі НКУС.*

*Сакратар Пухавіцкага РК КП(б)Б (Кульбацкі)*

Выбары ў Вярхоўны Савет СССР адбыліся 12 снежня 1937 г. У галасаванні прынялі ўдзел 97,4 працэнта выбаршчыкаў. За вылучаных кандыдадаў падалі галасы: у Савет Саюза — 98,7 працэнта, у Савет нацыянальнасцей — 98,4 працэнта. Як пісалі тагачасныя беларускія газеты, падводзячы вынікі галасавання, гэта было яскравае сведчанне маральна-палітычнага адзінства грамадства і яго адданасці вялікаму Сталіну...

Такі быў час!

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**галоўны навуковы супрацоўнік БелНДІДАС, доктар гістарычных навук.**


Зьвязда
Новы калгас-гігант імя „Зьвязды"
Наш грамвай

Старонка нумара даваеннай «Звязды».

## СУВЕРЭННАЯ «ИНОСТРАННАЯ ЛИТЕРАТУРА». МАГЧЫМЫ І ТАКІ ВАРЫЯНТ — «ЗАМЕЖНАЯ ЛІТАРАТУРА»

Як стала вядома з Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь, усур'ёз абмяркоўваецца ідэя выдання літаратурна-мастацкага часопіса «Иностранная литература» (заснавальнікам яго будзе выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

Пакуль часопіс існуе ў праекце, яшчэ невядома, будзе ён выходзіць толькі на рускай мове альбо на дзвюх — рускай і беларускай — адразу. Ці нават магчымы і іншы шлях — два рознамоўныя варыянты.Прыемна, што ідэю падобнага выдання, «нішу» выключна патрэбную, асвойвае не выпадковая камерцыйная структура, а багатае на вопыт выдання перакладной літаратуры выдавецтва. Толькі па-беларуску ў «Мастацкай літаратуры» выходзілі творы Міцкевіча і Гётэ, Верлена і Антуана дэ Сент-Экзюперы... Будзем спадзявацца, што асваенне беларускімі майстрамі перакладу замежных літаратурных твораў прадоўжыцца. Што альманахі «Братэрства» (ён прадстаўляў калісьці літаратуру народаў СССР) і «Даляглядьі» (больш далёкія проза і паэзія, калі вызначаць учарашнімі меркамі) набудуць новае дыханне.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## «САКРЭТНЫ» ШПІТАЛЬ У ВІЦЕБСКІХ ЛЯСАХ СПРАВІЎ НАВАСЕЛЛЕ

Так атрымалася, што часцей на слыху шпіталь для ветэранаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай, які знаходзіцца ў Бараўлянах. Але ёсць яшчэ адзін, таксама рэспубліканскі і таксама для байцоў «вогненных саракавых», пра які газеты чамусьці пішуць менш, — у вёсцы Юрцава, што пад Оршай.

Больш чым за дваццаць гадоў набыў ён вядомасць і павагу былых воінаў, якія тут залечваюць старыя раны. Праўда, умовы працы шпіталя з часам рабіліся ўсё горшымі, нягледзячы на стараннi персаналу. Бо ў непрыгоднасць прыходзілі прыстасаваныя калісьці будынкі. І вось радасная для ветэранаў і інвалідаў навіна: здадзены ў эксплуатацыю новы лячэбны корпус, у якім знаходзяцца і палаты для хворых, і спецыяльныя кабінеты, аснашчаныя найноўшым абсталяваннем. Прыемна, што да паслуг былых воінаў — плавальны басейн, спецыялізаваная спартыўная зала. Усё зроблена рукамі аршанскіх будаўнікоў. Не адзін раз я прыязджаў у Юрцава. Для мяне дарагія гэтыя мясціны, бо некалі якраз на Віцебшчыне партызаніў — дарэчы, разам з Пятром Міронавічам Машэравым. Падабаюцца мне і тутэйшыя парадкі, і лагодныя людзі, якія тут працуюць. А цяпер на душы цёпла, што ў Юрцаве такія цудоўныя перамены.

**Уладзімір ПАРУЛЬ,**
**былы камісар партызанскага атрада з 1941 года, удзельнік параду на Краснай плошчы.**

# Энергія — жыццё



Спецвыпуск «Звязды» і Міністэрства паліва і энергетыкі Рэспублікі Беларусь №2

15 кастрычніка 1996 года

ТЭМА ДНЯ

## «АЎТАМАБІЛЬ ЭКАНОМІКІ» —

не толькі шафёрскі абаранак. Гэта перш за ўсё рухавік машыны і паліва ў баку




**Гледзячы на гэты здымак, тыповы для сённяшніх дзён, ловіш сябе на думцы, што ўжо забыты параўнальна нядаўні «бензінавы крызіс» 1993—94 гадоў, калі ў Беларусі адну бочку гаручага дзялілі на ўсіх. Сёння бензіну, як кажуць, хоць заліся, рэспубліка — «эльдарада» для аўтамабілістаў.**

**Вось і зараз пішуць у газетах, напрыклад, аб адкрыцці ў Мінску і пад Брэстам дзвюх сучасных аўтазаправачных станцый, пабудаваных на сродкі расійскай нафтавай кампаніі «ЛУКойл». Гаспадарка, адным словам, развіваецца. Усё, як у калісьці шырока вядомай песеньцы Леаніда Уцёсава: «Всё хорошо, прекрасная маркиза...»**

**Калі ж глянуць глыбей, то ці так ужо ўсё проста ў тых жа «бензінавых пытаннях» і наогул, больш шырока, — у справе забеспячэння краіны, яе эканомікі, прадпрыемстваў, насельніцтва нафтай і нафтапрадуктамі, газам і палівам для кватэр і дамоў? Ды яшчэ калі ўлічыць, што нядаўна мы атрымалі ад расійскага «Газпрома» папярэджанне з прычыны нашых даўгоў па аплаце выкарыстанага газу?**

**Што маем на сённяшні дзень? Што чакае нас у недалёкім будучым? Пра гэта і ідзе гаворка ў змяшчаемым спецвыпуску.**

*(Гл. матэрыялы на стар. 1-й, 2-й і 3-й.)*

ПАЛІТЭКАНОМІЯ ДЛЯ ЎСІХ

# Інтэграцыя. Акцыяніраванне. Інвестыцыі

## Толькі абапіраючыся на трох гэтых «кітоў» паліўна-энергетычны комплекс краіны зможа арганізаваць базу для развіцця яе гаспадаркі

**На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае міністр паліва і энергетыкі Валянцін ГЕРАСІМАЎ**

**Энергетычная бяспека краіны, яе эканамічная незалежнасць, наогул больш-менш нармальнае жыццё людзей у камунальна-бытавым плане — гэта тыя глабальныя праблемы, якія значнай часткай свайго цяжару ляжаць на плячах ПЭК — паліўна-энергетычнага комплексу. Таму і называецца ён базавай галіной эканомікі.**

**І калі для каго-небудзь гэты выраз гучыць заштампаванай фразай, то няхай такі грамадзянін хоць бы на хвіліну задумаецца над тым, хто і як у сённяшніх цяжкіх эканамічных умовах зможа забяспечыць (і забяспечвае) яму цяпло і камфорт у яго доме, газ на кухні. Тым больш — ва ўмовах надыходзячай зімы.**

**Гэты «момант» і паслужыў зыходным пунктам у размове з кіраўніком галіны.**

**— Раз на раз, як кажуць, не прыходзіцца, і адна зіма на другую не паходзіць. Аднак успаміны пра «тыя» маразы міжволі прыводзяць да пытання: з якімі энергарэсурсамі мы будзем у новым ацяпляльным сезоне?**

— Якой будзе наступная зіма, адказаць, зразумела, цяжка. Лепш за ўсё цяперашнюю сітуацыю разглядаць праз прызму ўрокаў зімы мінулай, самай суровай за апошнія дзесяць гадоў, якая для энергетыкаў была проста-такі «гарачай». Аднак яны разам з нафтавікамі, газавікамі, работнікамі камунальных і іншых службаў, як усе ведаюць, з цяжкасцямі справіліся.

Тая зіма каштавала Беларусі ў цэлым немалой дадатковай колькасці паліва — больш як 1 мільён тон умоўнага паліва. Адна такая тона каштуе прыкладна 60 долараў. Такім чынам, трэба было дадаткова знайсці больш за 60 мільёнаў долараў!

Што дапамагло выйсці са становішча? Скажу адназначна: калі б не было вядомых дамоўленасцей з Расійскай Федэрацыяй, так званага «нулявога варыянта», то не было б і прычыны сёння гаварыць, што ўсё прайшло адносна гладка. Аднак ці азначае гэта, што і сёння можна біць у літаўры, упадаць у нейкую эйфарыю?

Тая сума запазычанасці па газу, якая ў нас была перад Расіяй, дазваляла РАТ «Газпром», з улікам абавязацельстваў Беларусі і заключанага кантракта, наогул «закрыць засаўку». Аднак гэтага не адбылося — зноў жа дзякуючы «нулявому варыянту». І тут трэба адразу сказаць: зімой 1996-97 гадоў такога «варыянта нумар два» не будзе. Сёння, як ніколі, неабходна працаваць над фінансавым забеспячэннем ПЭК і скарачэннем аб'ёмаў спажываемых энергарэсурсаў.

**— Відаць, Валянцін Васільевіч, варта было б напомніць чытачам аб сутнасці «нулявога варыянта». Ці, дакладней, зноў больш-менш дэталёва растлумачыць, бо тут бытуюць самыя спрошчаныя ўяўленні.**

— Гэта не што іншае, як узаемнае задавальненне прэтэнзій эканамічнага характару ў самым шырокім дыяпазоне. З аднаго боку, на шалі была пакладзена запазычанасць Беларусі за энерганосьбіты, з другога — даўгі Расіі: яе запазычанасць перад Беларуссю за энергетычны эквівалент ядзерных боегаловак, вывезеных з нашай тэрыторыі, «замарожаныя» рахункі ў Знешэканомбанку былога Саюза. Трэцяя складаная — затраты Беларусі на ўтрыманне ваенных аб'ектаў Расіі, што знаходзяцца ў нашай краіне, а таксама — на кампенсацыю экалагічнага ўрону ад дзейнасці гэтых баз.

Такая сутнасць парытэту. Наколькі дакладна ён вызначаны — сёння можна дыскутаваць і спрачацца. Відавочна, аднак, што 1,3 мільярда долараў для Беларусі — вельмі важкая сума, з-за якой і варта было дамаўляцца. Гэта лічба агульнага эквівалента, якая ляжыць у аснове дамоўленасці.

**— Значыць, нельга сказаць, як гэта робіцца на «дырэктарска-абывацельскім» узроўні: маўляў, «нулявы варыянт» — проста спісанне даўгоў за энергарэсурсы?**

— Механізм пагашэння запазычанасці (менавіта так!) прадпрыемстваў, распрацаваны ўнутры нашай краіны ў развіццё дзеяння «нулявога варыянта», — тэрміна «спісанне даўгоў» зусім не прадугледжвае. Трэба гэта падкрэсліць.

Уся запазычанасць па аплаце энергарэсурсаў, якая была дапушчана прадпрыемствамі ў 1994-95 гадах, толькі «адкладваецца» на 1996-97 гады. А вось у 1998 годзе яна нашымі прадпрыемствамі-даўжнікамі абавязкова павінна быць ліквідавана.

Сапраўды, у нашай дзелавой, эканамічнай «атмасферы» гэты прынцып і сам тэрмін «спісанне даўгоў» чамусьці пастаянна цыркулююць. Хутчэй за ўсё, гэта з'ява адлюстроўвае чаканні гаспадарнікаў ды і нашу агульную прывычку да розных «спісанняў». Аднак ніхто ў Беларусі спісваць гэтыя даўгі з прадпрыемстваў не будзе. Гэтыя сумы так ці інакш будуць спагнаны, перараземеркаваны і пойдуць на павелічэнне датацый у бюджэтнай сферы, на вяртанне даўгоў суб'ектам гаспадарання ў Знешэканомбанку.

**— Сітуацыя даволі вострая, але яе яшчэ больш абвастраюць новыя даўгі за энергарэсурсы, якія з'явіліся ў Беларусі пасля прыняцця «нулявога варыянта»...**

— Гэта, на вялікі жаль, факт. Сітуацыя з неплацяжамі за выкарыстаныя энергарэсурсы працягвае заставацца вельмі няпростай. Запазычанасць па плацяжах суб'ектаў гаспадарання, прадпрыемстваў разнастайных галін эканомікі, бюджэтнай сферы працягвае нарастаць. Сёння яна ўжо складае толькі па Мінпаліваэнерга больш як 1,6 трыльёна беларускіх рублёў. І пакуль нейкай станоўчай дынамікі тут не відаць. Зразумела, што такім чынам расце і доўг усёй дзяржавы замежным пастаўшчыкам энергарэсурсаў.

**— Гаворачы пра энергію, нафту, паліва мы абавязкова выходзім на тэму эканамічнага супрацоўніцтва з Расіяй. А калі ў гэтай сувязі ўспомніць пра геаграфічнае і геапалітычнае становішча Беларусі? Як вы, Валянцін Васільевіч, ахарактарызавалі б гэты фактар?**



— Тое, што вы назвалі, гэта аб'ектыўная данасць, гэта фактар, які гаворыць аб наступным: Беларусь — транспартны калідор паміж Заходняй Еўропай і Расіяй, краінамі СНД у цэлым. Не думаю, што ўжыты мною тэрмін павінен выклікаць нейкія крыўдныя асацыяцыі, звязаныя з ушчамленнем пачуцця нацыянальнай самасвядомасці. Гэты тэрмін хутчэй «тэхналагічны», ён гаворыць аб магчымасці транзіту розных грузаў і энерганосьбітаў праз тэрыторыю рэспублікі. Не закранаючы, скажам, аўтатранспартныя зносіны, чыгунку, авіяперавозкі, а гаворачы толькі пра транзіт энерганосьбітаў, можна сказаць, што гэта самы кароткі і надзейны шлях і для Еўропы, і для Расіі.

Наколькі ён эфектыўны, можна меркаваць па такому факту: па тэрыторыі Беларусі праходзіць цэлая сетка магістральных газаправодаў, па якіх пампуецца газ практычна для ўсёй Еўропы — аж да Атлантычнага акіяна.

**— Мы, аказваецца, «атлантысты». Аднак, калі без жартаў, то, улічваючы важнае геапалітычна-стратэгічнае размяшчэнне Беларусі, кіраўнікі расійскага «Газпрома», нашага пастаяннага крэдытора, павінны адносіцца да нас з большай прыхільнасцю. Ці назіраецца гэта ў сапраўднасці?**

— А яны якраз з гэтым фактарам вельмі лічацца. Усе прапановы і праекты там разглядаюць менавіта з улікам гэтых важных абставінаў. Нам таму ў большай ступені і аддаюць прыярытэт, паколькі перспектыўнае энергетычнае будаўніцтва, як і газатранспартных сетак, завязваецца на тэрыторыю Беларусі.

У першую чаргу гэта датычыць будучага газаправода «Ямал—Еўропа». Хоць тут, у прынцыпе, як гаворыцца, «магчымы варыянты». Тая ж Прыбалтыка, скажам, з вялікім задавальненнем прапусціла б гэтыя газаправоды праз сваю тэрыторыю. Аднак, самі разумееце, тут вялікі комплекс пытанняў і «вузельчыкаў» — зусім не энергетычнага характару, таму над гэтым няхай ламаюць галаву палітыкі.

З пункту ж гледжання інжынерных спраў, эканамічных адносінаў, якія даўно склаліся паміж Беларуссю і Расіяй, атрымліваецца, што менавіта ў нас — адзін з самых надзейных транзітных калідораў.

Наша краіна, заўважу, мае ад гэтага немалыя выгады. Беларускія спецыялісты, напрыклад, атрымліваюць магчымасць быць занятымі на ўзвядзенні трубаправодаў, а гэта — новыя рабочыя месцы. Атрымлівае Беларусь і плату за транзіт энерганосьбітаў, якая ў канчатковым выніку дазваляе нам зменшыць кошт расійскага газу, разнастайных вытворных прадуктаў.

**— Не думаю, Валянцін Васільевіч, што ў нас з вамі ёсць час, каб дыскутаваць на тэму: каму і чаму падабаюцца нашы апошнія пагадненні з Расійскай Федэрацыяй, а каму — не. Зноў жа, пакінем палітыку палітыкам. Куды цікавей было б даведацца: што новага сёння ў нашых узаемаадносінах з Расіяй з пункту гледжання энергетыкі і развіцця паліўна-энергетычнага комплексу?**

— Гаворачы адным-двума словамі, гэта — інтэграцыйныя працэсы, і ў першую чаргу — у сферы ПЭК. Якія намячаюцца тут практычныя дзеянні?

Па-першае, адзіны паліўна-энергетычны баланс, стварэнне СП і акцыянерных таварыстваў па нафтаперапрацоўцы сумесна з расійскімі прадпрыемствамі. Што, дарэчы, дэманструюць вядомыя пагадненні такіх фірмаў, як «Слаўнафта», «ЛУКойл», «ЮКАС», з аднаго боку, і нашых Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў — з другога.

Па-другое, гэта акцыяніраванне па газатранспартных сістэмах разам з РАТ «Газпром». І па-трэцяе, развіццё інтэграцыі ў электраэнергетыцы, што звязана з агульнымі функцыямі і задачамі па вытворчасці, транспарту і размеркаванню электраэнергіі. Калі коратка, то ўсё гэта можна вызначыць як сумеснае акцыяніраванне з расійскай энергетыкай. Такую мы бачым у выніку перспектыву.

Мы робім гэтыя крокі зусім не дзеля высакамоўных заяў. Сяброўскія сувязі — гэта выдатны набытак, іх трэба падтрымліваць і захоўваць. У той жа час, і гэта аб'ектыўныя праявы жыцця, — у кожнага свой эканамічны інтарэс. Тут мы дакладна ведаем, чаго мы хочам і чаго дабіваемся. А хочам мы, скажу адкрыта, атрымаць гарантыі і інвестыцыі для развіцця беларускага ПЭК і яго інфраструктуры.

Ёсць воля да дзеянняў — маюцца ўжо сёння і канкрэтныя вынікі. На нашай заходняй граніцы пачынаюць разгортвацца работы па ўзвядзенню «беларускага» ўчастка газаправода «Ямал—Еўропа», прычым весці іх будуць нашы будаўнічыя і мантажныя арганізацыі, якія да гэтага выйгралі спецыяльныя конкурсы — тэндэры. Неўзабаве пачнецца і ўзвядзенне Зэльвенскай ДРЭС — гэта будзе сумеснае наша прадпрыемства з расійскім «Газпромам», і перспектывы акцыяніравання тут вельмі вялікія.

**— Па гэтых дэталях ужо можна зрабіць выснову: беларуская энергетыка і ўвогуле ПЭК ногі, як кажуць, не працягне. Пры ўсім тым, Валянцін Васільевіч, складваецца ўражанне, што сутнасці глабальнай энергетычна-эканамічнай палітыкі, якая ў чымсьці і выяўляецца ў прыведзеных вамі фактах, мы яшчэ не раскрылі. Напэўна, гэта не сакрэт?**

— Калі апераваць макраэканамічнымі маштабамі, то ў першую чаргу размова ідзе аб ажыццяўленні ідэі стварэння адзінай эканамічнай (у нашым выпадку — энергетычнай) прасторы. І, не пабаюся гэтага слова, пра паўторную заваёву нашымі вытворцамі рынку ў Расіі.

Калі гэта адбудзецца, то Беларусь зможа ў поўным сэнсе слова ўздыхнуць. Аднак рэальнасцю мы гэта зробім толькі тады, калі будзем арыентавацца на сучасныя метады кааперавання, прынятыя ў свеце, з той жа Расіяй — у эканамічным плане і іншых пытаннях.

Што датычыцца праблем ПЭК, то тут трэба разумець галоўную ісціну: толькі цесныя эканамічныя сувязі з Расіяй дадуць нам гарантыі энергетычнай бяспекі нашай краіны. Гэтую выснову падмацавала і маштабная нарада ў Маскве, якая адбылася ў маі і была прысвечана праблемам энергетычнай бяспекі краін СНД. Узровень яе быў найвышэйшы, прыйшло і прывітанне ад Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.

Былі зроблены прынцыповыя высновы: каб наладзіць надзейнае энергазабеспячэнне эканомік нашых дзяржаў, неабходна мець агульную канцэпцыю і праграму развіцця ПЭК, як гэта рабілася ў недалёкім мінулым, у час існавання адзінай энергетычнай сістэмы ў былым Саюзе. Але, што прынцыпова важна, з улікам сённяшніх рэалій, новых палітычных і эканамічных умоў.

Тэма, як бачым, узнікае зусім новая, і я думаю, што інфармацыю па гэтых праблемах чытачам «Звязды» мы ў наступны раз яшчэ дадзім.

**Гутарыў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## Вытворча-бытавыя і сацыяльныя штрыхі да «жалезабетоннага партрэта» Мінскай ЦЭЦ-5

**Каго з радавых грамадзян, «звычайных» спажыўцоў электраэнергіі, цікавяць эканамічныя выкладкі і праблемы энергетыкаў? Ім падавай цяпло і святло ў хаце, а ў лічбы, якія гавораць пра «кубы» зборнага жалезабетону і тоны металаканструкцый, няхай удумваюцца спецыялісты. Таму пачнём расказ з факта хоць і звычайнага, але неардынарнага.**

**...У адзін са жнівеньскіх дзён прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір на нейкі час «збег» ад сваёй асабістай аховы, якая яму належыць, скажам так, па «штатнаму раскладу». Адбылося гэта тады, калі ён наведаў будпляцоўку Мінскай цеплаэлектрацэнтралі № 5, якая ўзводзіцца за сорак кіламетраў ад сталіцы, у Пухавіцкім раёне.**

**Будоўля па маштабах — велізарная, а жалезабетонная дымавая труба, што ўзводзіцца непадалёк ад галоўнага корпуса першага энергаблока, — сапраўдны калос. Каб падаваць наверх будматэрыялы, паднімаць мантажнікаў, у сярэдзіне трубы зманціраваны маленькі ліф-«душагубка». Каб змясціцца ў кабінцы чатыром мужыкам, трэба моцна ўцягнуць жываты.**

**Ахова, зразумела, горача адгаворвала кіраўніка ўрада, але М. Чыгір, прыняўшы рашэнне, у суправаджэнні міністра галіны В. Герасімава і адказных інжынерна-тэхнічных работнікаў храбра ступіў у кабінку і рушыў на адзнаку «90 метраў». Бедныя ахоўнікі, месца ў ліфце ім не знайшлося...**

**Таму, хто на такой вышыні «разгульвае» па хліпкіх драўляных мастках, пакладзеных вакол цела трубы, асабліва не пазайздросціш. Вецер такі, што можа садзьмуць з галавы і пластмасавую каску (сам адчуў, калі пабываў «на трубе»). Аднак для таго, каго чакае важнае рашэнне, позірк з такога гарызонта проста неабходны: як на далоні відаць аб'ёмы зробленага, без усякай рэтушы...**

**Калі ўзнікае пытанне агульнадзяржаўнага маштабу аб зняцці з фінансавання якой-небудзь буйной будоўлі, то за гэтым практычна заўсёды трэба шукаць пэўныя інтарэсы пэўных груп і колаў. Так было і ў выпадку з Мінскай ЦЭЦ-5: «нечакана» ўзнялася шуміха на тэму закрыцця будаўніцтва і кансервацыі аб'екта. Між тым, на цяперашні час па сённяшніх цэнах у цеплаэлектрацэнтраль ужо ўкладзена прыкладна 900 мільярдаў рублёў народных грошай! І ўсё кату пад хвост?**

**...Труба, як кажуць, трубой. Увогуле ж прэм'ер-міністр аб'ездзіў і агледзеў літаральна ўсё — жылы пасёлак энергетыкаў Дружны, сацыяльна-бытавыя аб'екты, карпусы, збудаванні і інфраструктуру першага энергаблока. Пасля чаго энергаблок стаў пускавым аб'ектам.**

**Праўда, перад гэтым М. Чыгір правёў на ЦЭЦ-5 працяглую нараду. А ўжо потым з'явілася пастанова ўрада № 562, першы пункт якой гучыць так: «Пагадзіцца з высновамі камісіі, створанай распараджэннем Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23 мая 1996 г. № 480р, аб эканамічнай мэтазгоднасці працягу будаўніцтва Мінскай ЦЭЦ-5 і ўводу ў дзеянне яе першага энергаблока ў 1998 годзе».**

**Прывядзём невялікую даведку: гэты блок (калі браць за аснову ранейшае праектнае рашэнне) — толькі чацвёртая частка ўсёй станцыі. Ён адзін зможа даць за год толькі электраэнергіі 1,8 мільярда кілават-гадзін. Гэтым можна забяспечыць вялікі горад, такі, як, напрыклад, Віцебск. Мінску дастанецца таксама.**

**І ўсе гэтыя перспектывы хтосьці хацеў прыкрыць?!**





*ПРАБЛЕМНЫ ФОТАРЭПАРТАЖ*

# АЖЫЎШЫ ГІГАНТ,

## або Правільнае рашэнне, прынятае на вышыні птушынага палёту





### «МЫ НЕ МАЕМ ПРАВА СКАРДЗІЦЦА НА СВОЙ ЛЁС...»

Аўтару гэтых радкоў за сваё журналісцкае жыццё пісаць з Дружнага прыходзілася не раз, яшчэ ў тыя часы, калі цяперашняя ЦЭЦ будавалася як Мінская атамная. Атрымалася так, што напісанне хвалебных рэпартажаў тыпу: «Савецкія атамныя станцыі — самыя лепшыя і надзейныя ў свеце!» у яго «не атрымалася» (прабачце за паўтор-таўталогію). А крытычныя публікацыі — гэтыя былі.

Ці можна было прамаўчаць, калі на такім сур'ёзным аб'екце (гэта яшчэ перад Чарнобылем!) груба парушаліся правілы пажарнай бяспекі? Амбіцыйнае ж саперніцтва паміж удзельнікамі будаўніцтва іншы раз даходзіла да камедыйна-крымінальных «выступленняў», калі яны адзін аднаму літаральна «перакрывалі кісларод» у вытворчай тэхналогіі — закручвалі засаўкі на трубаправодах.

«Вясёлыя» былі часы, нічога не скажаш! Аднак эканамічны крызіс і «прыемнасці», з ім звязаныя, пасадзілі ўсіх былых дружных—нядружных у пасёлку Дружным у адну лодку і загадалі выжываць толькі разам. Тым больш, што прадастаўлены хоць і цудоўны, але апошні шанц (чытай вытрымку з пастановы Кабінета Міністраў).

Ці маюцца сёння ў заказчыкаў, будаўнікоў, субпадрадчыкаў «глабальныя» прэтэнзіі адзін да аднаго? Што вы! Ёсць толькі філасофская канстатацыя сумных фактаў і ўзаемнае разуменне агульных цяжкасцей. А можа, гэта для справы і лепш?

...Асноўны прынцып у эканоміцы і вытворчасці заключаецца ў тым, што трэба ў тэрмін разлічвацца за выкананую для цябе работу. Гэтую думку выказаў начальнік упраўлення будаўніцтва Мінскай ЦЭЦ-5 Анатоль Андрыянаў, але паколькі яна поўнасцю адпавядае і перакананням аўтара, і наогул ходкая ў свеце ісціна, то вышэйпрыведзеныя словы ў двукоссі не ўзяты. Аднак далей Анатоль Аляксандравіч агульнавядомую тэорыю жорстка звязаў з сённяшняй практыкай:

— У аплаце будаўнікам за выкананыя работы заказчык адстае больш чым на паўтара месяца. Сёння ва ўсіх такая фінансавая сітуацыя, таму мы і ўваходзім у становішча партнёра — сур'ёзных прэтэнзій да яго не прад'яўляем. Да таго ж мы ведаем, што грошы на ўзвядзенне станцыі ў прынцыпе ёсць, яны «закладзены» ў тарыфы, па якіх спажыўцы плацяць за электраэнергію. Але паспрабуй іх «знайсці», калі вакол суцэльныя неплацяжы.

З каго ж, аднак, «выбіваць» гэтую аплату, калі аб'яднанню «Мінскэнерга» такі былы гранд прамысловасці, як Мінскі трактарны завод, за восем месяцаў завінаваціўся 60 мільярдаў, а МАЗ — наогул 200 мільярдаў рублёў? Словам, грошай няма — і адкуль тады «Мінскэнерга», як галаўная арганізацыя, возьме сродкі, каб пералічыць іх дырэкцыі ЦЭЦ-5? Апошняя ў сваю чаргу трымае «на падсосе» генпадрадчыка.

Хочаш не хочаш, але дырэкцыі (добра, хоць тут ёсць нейкія магчымасці) прыйшлося пераключыцца на «новы від бізнесу» — на бартэрныя здзелкі з прадпрыемствамі-даўжнікамі за выкарыстаную электраэнергію. Узнікла «цэласная» сістэма так званых энергазалікаў, калі, скажам, за турбіну вытворчасці санкт-пецярбургскага завода прыходзіцца «жыўцом» плаціць «МАЗамі» мінскага прадпрыемства, якое такім чынам пагашае частку сваіх даўгоў за энергарэсурсы. Гэта і ёсць сучасны беларускі «энергабартэр», з якога можна было б пасмяяцца і сярэдневяковаму феадалу — з ліку тых, вядома, у каго вадзіліся залатыя талеры.

У такіх умовах будуецца гігант беларускай энергаіндустрыі...

У той жа час тыя, хто ўзяўся за справу, яе і робяць. Дырэктар Мінскай ЦЭЦ-5 Віктар Шаманоўскі падагульняе прамежкавыя вынікі:

— За дзевяць месяцаў на аб'екце асвоены 344 мільярды рублёў — сума вялікая. Сёлета, не сумняваюся, мы выйдзем на асваенне аб'ёмаў капітальных укладанняў у суме 417 мільярдаў. Гэта і ёсць першапачатковы план, які быў спушчаны нам на гэты год. Але па вядомых ужо прычынах, з-за надуманых «дыскусій», ён быў зменшаны больш чым на чвэрць. Будзем ставіць перад кіраўніцтвам Мінпаліваэнерга пытанне, каб вярнуць раней намечаныя аб'ёмы фінансавання работ. Наогул, на фоне агульнай слабасці эканомікі, у тым ліку і ў будаўніцтве, справы ў нас ідуць не самым кепскім чынам...

І дадаў тую самую фразу, якая вынесена ў падзагаловак.

### БАРТЭРНАЯ КУРЫЦА

Жыццё прымушае «мяняць» даўгі на абсталяванне, «МАЗы» — на жалезабетон. Іншы раз, аказваецца, трэба памяняць, што называецца, быка на індыка. Карацей кажучы, пры такім слабым фінансаванні — як плаціць будаўнікам зарплату? Як людзям харчавацца?

Прыходзіцца ісці і на такі крок: упраўленне будаўніцтва ЦЭЦ-5 узяло ў банку шматмільённы крэдыт і такім чынам змагло выплаціць людзям зробленыя грошы, пагасіць запазычанасць перад дзяржбюджэтам (па падатках) і пазабюджэтнымі сферамі.

— Прыйшлося стварыць непрывычную для бударганізацыі службу маркетынгу, — дзеліцца ўнутранымі сакрэтамі Анатоль Андрыянаў, — каб шукаць магчымасці партнёрскага «бізнесу» з прадпрыемствамі і калгасамі, у тым ліку і з даўжнікамі за энергарэсурсы — па той жа схеме энергазалікаў. Непадалёк ад нас знаходзіцца Мар'інагорская птушкафабрыка, якая таксама слаба плаціць за цяпло і энергію. Вось яна і пагашае даўгі пастаўкамі курэй. У іншых гаспадарках выменьваем такім чынам свініну. Такі вось «электрычна-пазаэканамічны феадалізм». А што рабіць? Будаўніцтва ж абавязкова павінна працягвацца, а людзям трэба штосьці прыносіць у сем'і.

Па сённяшніх мерках, калі муж-карміцель прыносіць жонцы частку зарплаты ў выглядзе даволі тлустых курэй, больш танных, чым у магазіне, дык гэта не так ужо і дрэнна. Астатнія ж 640 тысяч рублёў, на «спажывецкую карзінку», кожны атрымлівае грашамі.

Але ж і такая вось курыца дастаецца няпроста. Бо карміць, падтрымліваць прыходзіцца 1200 будаўнікоў. У былыя ж часы, калі аб'ект узводзіўся як атамная станцыя, тут працавала каля трох тысяч чалавек! Такая «арыфметыка»...

Можна, зразумела, і пажартаваць над усёй гэтай саматужнай камерцыяй і «курынымі бартэрамі». Толькі гумар, прама скажам, атрымаецца «чарнаваты».

Таму першым пачуццём, якое прыходзіць, калі як след унікнеш у тое, што паспелі ажыццявіць будаўнікі і мантажнікі, з'яўляецца пачуццё здзіўлення. Сапраўды, застаецца толькі здзіўляцца, як дырэкцыі ЦЭЦ і падрадчыкам у наш крызісны час удаецца забяспечыць буйнейшую будоўлю ўсім неабходным.

Кацёл першага энергаблока для чытача-неспецыяліста, паверце на слова, — нешта неймавернае. Па сутнасці, гэта велізарны корпус вышынёй у 13-14 паверхаў, калі параўноўваць з жылым домам. Тысячы і тысячы тон металаканструкцый, пераплеценых каласальнымі трубамі. Сценкі некаторых з іх — па восем сантыметраў таўшчынёй, з гарматнай сталі!

Такога прамысловасць Беларусі не вырабляе. Вельмі многае дастаўлена з Расіі, як, між іншым, і магутная турбіна на 330 мегават. Працаваць ЦЭЦ-5 будзе на газе — таксама расійскім. Вось чаму ў будаўнікоў і энергетыкаў Дружнага пануе практычна аднадушная думка:

— Пагадненні з Расіяй, як мы разумеем, забяспечаць нам пастаўкі газу. Без гэтага ЦЭЦ не выжыве, як і мы самі. Якая можа быць альтэрнатыва?

### БЫЛЫЯ «АТАМШЧЫКІ», А ЦЯПЕР ПРЫХАДЖАНЕ...

Вуліца, на якой стаіць мясцовы кінатэатр, падзяляе Дружны на дзве зусім непадобныя часткі. Адна — даволі вірлівы цэнтр пасёлка, на другой жа ў чыстым полі, у адзіноце, гаротна туліцца інтэрнат будаўнікоў. Калісьці ж «праектавалася», што і тут будзе віраваць жыццё...

«Горада атамшчыкаў», накшталт знакамітага Славуціча, тысяч прыблізна на 25—30 насельніцтва, з Дружнага не атрымалася, усе падобныя планы даўно канулі ў Лету. Цяпер тут жыве прыкладна шэсць тысяч чалавек — у большасці сем'і будаўнікоў.

Доўгі час самай папулярнай была ў пасёлку прымаўка «мясцовага гатунку», якая на рускай мове гучала так: «Дружный — никому не нужный». Цяпер яна быццам бы і знікла, паколькі будаўніцтва цеплаэлектрацэнтралі набыло другое дыханне, а мясцовыя жыхары, рабочыя і спецыялісты, знайшлі сабе работу і справу ў жыцці. І ўсё ж...

І ўсё ж у Дружным і пасёлку Свіслач, што непадалёк адсюль, налічваецца 605 беспрацоўных, прыкладна 70 працэнтаў з якіх — жанчыны. Рэаліі сённяшняга нялёгкага жыцця такія, якія яны ёсць у нас паўсюдна. Каму жывецца крыху лягчэй, таго, безумоўна, задаволіць, што за апошнія гады ўпраўленне будаўніцтва ЦЭЦ-5 пабудавала ў пасёлку той жа кінатэатр, здае ў эксплуатацыю лазнева-пральны камбінат, на чарзе — паліклініка, іншыя аб'екты сацыяльна-бытавога прызначэння.

З'явілася ў Дружным і невялікая царква: неўладкаванасць жыцця, наступствы чарнобыльскай катастрофы прымусілі многіх успомніць пра рэлігію, пра Бога.

На рэканструкцыю будынка пад царкву будупраўленне, якім кіруе А. Андрыянаў, выдзеліла са сваіх небагатых магчымасцей 150 мільёнаў рублёў, зрабіла і неабходныя работы. Па выхадных днях і праваслаўных святах царква Ражства Хрыстова не пустуе.

Так ці інакш, але жыццё ў Дружным працягваецца. Падтрымліваюць яго і тыя надзеі, якія звязвае мясцовы люд з далейшым развіццём гіганта нашай энергаіндустрыі. Будзе энергія, будзе і святло ў вокнах. А з ім, як вядома, і жыць весялей.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**



НА ЗДЫМКАХ: галоўны корпус першага энергаблока; сталёвая ферма рыхтуецца да мантажу; начальнік упраўлення будаўніцтва Мінскай ЦЭЦ-5 Анатоль Андрыянаў інспектуе ход работ; так выглядае комплекс цеплаэлектрацэнтралі; у мясцовай школе № 1 — урок фізкультуры.

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## БЕЛАРУСКІЯ ХАЛАДЗІЛЬНІКІ НЕ БУДУЦЬ РАЗБУРАЦЬ АЗОНАВУЮ АБАЛОНКУ ЗЯМЛІ

Як добра вядома, найбольшы ўрон азонавай абалонцы Зямлі прыносіць газ фрэон. Асноўнымі «пастаўшчыкамі» яго ў атмасферу з'яўляюцца, у прыватнасці, халадзільныя ўстаноўкі. Па гэтай прычыне выкарыстанне фрэону ў якасці холадаагента практычна забаронена зараз ва ўсім свеце, за выключэннем хіба што краін былога СССР. Так, адна толькі Беларусь сёння штогод спажывае 250 тон фрэону-12 (найбольш разбуральнага па сіле ўздзеяння на азонавую абалонку газу), які ўвозіць з Расіі для патрэб шэрага сваіх прадпрыемстваў. Найбольш буйнымі спажыўцамі яго з'яўляюцца завод «Атлант», рэспубліканскае вытворчае аб'яднанне «Белгандальпрагрэс», Белкаапсаюз, часткова Мінсельгасхарч, а таксама аўтатранспартнікі і чыгунка, калі гэта датычыць рэфрыжэратарных перавозак. Натуральна, што калі ўвесь свет змагаецца за экалогію, крокі ў гэтым напрамку павінна была зрабіць і наша краіна.

Шэрагам зацікаўленых ведамстваў сумесна з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя днямі было разгледжана пытанне аб спыненні выкарыстання азонаразбуральных холадаагентаў. Прынята рашэнне прызначыць рэспубліканскае вытворчае аб'яднанне «Балгандальпрагрэс» галоўным прадпрыемствам па ўкараненню ў краіне практыкі пераходу на азонанебяспечныя тэхналогіі. У прыватнасці, як паведаміў карэспандэнту «Звязды» галоўны інжынер аб'яднання Мікалай Брушкоў, замест фрэону-12 будуць выкарыстоўвацца фрэон-134, фрэон-404, фрэон-502, якія не ўяўляюць небяспекі для азонавай абалонкі Зямлі і ўжо знайшлі сваё прымяненне ў іншых краінах. Прадугледжваецца таксама стварэнне рэспубліканскага сховішча адпрацаваўшых сваё хладонаў, цэнтра перападрыхтоўкі электрамеханікаў па рамонту халадзільнага абсталявання і інш. Фінансаванне гэтага праекта будзе ажыццяўляцца за кошт гранта, які прадастаўляюць Рэспубліцы Беларусь Сусветны банк і Глабальны эканамічны фонд. Тэрміны вызначаны да 2005 года.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

УСМЕШКА МАСТАКА



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

ДАСЛОЎНА

# «ЧАЧЭНЦЫ — ЗВЫШАБ'ЯДНАНАЯ НАЦЫЯ»,

**зазначыў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» міністр замежных спраў Чачэнскай Рэспублікі Руслан Чымаеў**

***Расійскі дэпутат Уладзімір Лукін называў гэтага чалавека не інакш як «так званы міністр», большасць іншых расійскіх парламентарыяў, за выключэннем хіба Сяргея Кавалёва, таксама. Аднак расійскі пункт гледжання на сітуацыю ў Чачні мы і без таго шмат чуем, менавіта таму хочацца прадставіць пункт гледжання чачэнскага міністра, які дзейнічае, нягледзячы на тое, прызнаюць яго ў Маскве ці не. Руслан Чымаеў, даведаўшыся, што з ім хоча пагаварыць беларускі журналіст, сказаў напаўжартам: «Мы згодны былі б на такі тып адносінаў з Расійскай Федэрацыяй, які існуе паміж Расіяй і Беларуссю. Гэта было б гранічным узроўнем для нас, але не бліжэй, чым ваша Супольнасць... А ў цэлым я лічу, што для любога народа чым далей ад Расіі, тым лепш».***

**— Які ўрад вы цяпер прадстаўляеце, у якой ступені ён сфарміраваны? У ім толькі былыя прыхільнікі Дудаева?**

— Няма прыхільнікаў Дудаева, ёсць прыхільнікі чачэнскай дзяржавы. Я ж прадстаўляю той урад, які існаваў з пачатку вайны, праўда, у ім засталося вельмі мала тых міністраў, некаторыя забаяліся, збеглі, некаторыя загінулі, старых міністраў засталося чалавек пяць-шэсць. У гэты кабінет мы дабралі тых прадстаўнікоў, якіх нам вылучылі партыі і рухі Чачні на сваім чацвёртым з'ездзе, што нядаўна прайшоў у Грозным. Трох міністраў мы ўзялі з кабінета Доку Заўгаева, ідучы на кампраміс з Лебедзем. Гэта людзі ў асноўным тэхнічных спецыяльнасцей і адпаведных пасад. Што датычыцца Заўгаева, то трэба адназначна заявіць, што ўся яго ўлада трымалася толькі на рускіх штыках. Сёння рускія яшчэ не зусім выйшлі, і дзе цяпер Заўгаеў? Ён у Маскве, ходзіць па кіраўнічых калідорах, дае грошы, а іх у яго шмат, бо Ельцын спецыяльна выдзеліў на Чачню сродкі і замкнуў іх на Заўгаеве. Заўгаеў пускае гэтыя грошы ў абарот, і Ціхаміраў і Пулікоўскі рэгулярна зрываюць мірныя пагадненні, ідучы супраць свайго прэзідэнта. Яны рызыкуюць, атрымліваючы буйныя сумы грошай.

**— Па-вашаму, Заўгаеў як палітык ужо закончыўся?**

— У Чачні Заўгаеў сёння не існуе. У нас яго асудзілі, і вынеслі прыгавор. Яго запрашалі на суд прывесці свае довады ў абарону, але ён не з'явіўся. Цяпер аб'яўлена, што любы салдат можа прывесці прыгавор у выкананне. Мы паслалі расійскаму ўраду заяву з просьбай аб выдачы Заўгаева як дзяржаўнага і ваеннага злачынцу, але яго не выдаюць. Заўгаеў мае сувязі ў Крамлі, у яго вялікі вопыт апаратчыка, так што ў будучым ён яшчэ шмат крыві нам папсуе, але як палітык у Чачні ён не існуе, у яго няма ніводнага прыхільніка.

**— А што ўрад Заўгаева паспеў аднавіць у Чачні?**

— Лепш гэтае пытанне задаць самому Заўгаеву. Я ведаю толькі, што ён на адной з баз расійскіх войскаў напалову адбудаваў асабняк з ружовага каменю з двума басейнамі на розных паверхах...

**— Такім чынам, рэальная ўлада ў Чачні цяпер знаходзіцца ў руках вашага ўрада?**

— Матэрыяльна і маральна ўлада знаходзілася ў нашых руках усе гэтыя два гады. Мы правялі святкаванне Дня незалежнасці ў Грозным і летась, і сёлета. Летась і я выступаў на руінах прэзідэнцкага палаца. Мы ніколі не гублялі ўладу.

**— Вы думаеце, вам удасца такім чынам аб'яднаць чачэнскі народ?**

— А ён і так адзіны. Разрозненым паўмільённым народам ваяваць, процістаяць такой дзяржаве нельга было б. У нас няма праблемы аб'яднання, мы — супераб'яднаная нацыя.

**— Пан міністр, вы зазначалі, што ў выніку вайны Чачня страціла 10 працэнтаў насельніцтва. Ці не маглі б вы сказаць, колькі з іх было ваенных, апалчэнцаў, дзяцей, жанчын і як можна вызначыць узровень разбурэнняў?**

— Гэта вельмі вялікая задача, я не спецыяліст у гэтым пытанні, некаторыя называюць лічбы, і я магу толькі іх прывесці. Расійскія спецыялісты ўскоснымі метадамі вызначылі лічбу ў 100—120 тысяч чалавечых ахвяр з чачэнскага боку. З іх большасць — мірнае насельніцтва, да 90 працэнтаў. Ваенныя страты з нашага боку — 6600, паводле звестак А. Масхадава. Я магу прывесці прыклад маёй роднай вёскі Старыя Атагі, што непадалёк ад Грознага: за два гады вайны ў ёй з'явілася 106 магіл... У вёсцы перад вайной жыло восем тысяч насельніцтва, цяпер — каля чатырох тысяч, частка загінула, а частка падалася ў бежанцы. Лічыцца, што палова жыхароў Чачні сёння знаходзіцца ў розных рэгіёнах Казахстана, Расіі, Украіны.

**— Ці маеце вы інфармацыю аб стратах расійскіх салдат і рускага насельніцтва?**

— Па-першае, мы лічым грамадзянамі Чачэнскай Рэспублікі ўсіх, хто ў нас жыў, не дзелім іх па нацыянальнай прымеце. Сельскае насельніцтва, зразумела, у нас амаль на ўсе сто працэнтаў чачэнскае, а з загінуўшых у Грозным да 60 працэнтаў складалі рускія. Страты расійскай арміі ўтойваюцца камандаваннем, заніжаюцца. Нашы камандзіры, наадварот, завышаюць. Я сустракаў лічбы ад 12 да 80 тысяч, паводле расійскіх крыніц. Нашы крыніцы стабільна прыводзяць лічбу каля 70—80 тысяч. Зразумела, што гэтыя страты палічаны прыблізна. Асабіста я быў сведкам, як расіяне спальвалі трупы сваіх салдат, збіралі рэшткі ў скрыні з-пад снарадаў і тайна закопвалі ў ірвах ці ў полі. Адно такое месца выпадкова было знойдзена мясцовымі жыхарамі, і яны прывялі туды прадстаўнікоў міжнародных арганізацый, у прыватнасці АБСЕ.

**— Скажыце, а, паводле вашай інфармацыі, колькі ёсць палонных з расійскага і вашага боку?**

— Як было заяўлена, прыкладна па паўтары тысячы з таго і другога боку. Калі з расійскага боку, гэта на ўсе сто працэнтаў ваеннаслужачыя, салдаты, то з нашага боку ў палоне знаходзяцца ў асноўным прадстаўнікі цывільнага насельніцтва, бо баевікоў, як гавораць у Расіі, або салдат чачэнскай арміі, яны расстрэльваюць.

**— А што датычыць захопленых расійскіх будаўнікоў, энергетыкаў?**

— Тут справа ў тым, што на акупіраванай і кантралюемай расійскімі войскамі тэрыторыі адбываліся захопы крымінальнікамі гэтых самых будаўнікоў, яны за іх патрабавалі грошы... Сёння Расія прыпыняе абмен ваеннапалоннымі на той падставе, што мы як быццам падалі спіс палонных крымінальнікаў. Вядома, яны бяруць людзей на вуліцах, хапаюць, утрымліваюць на фільтрацыйных пунктах, потым саджаюць іх у турму па артыкулах «разбой», «бандытызм», «незаконнае нашэнне зброі» і г.д. І на гэтай падставе яны адмаўляюцца нам іх выдаваць. Мы ж падазраём, што іх проста забілі. Кожны раз, калі мы атрымліваем сваіх палонных, то яны ледзьве жывыя, пабітыя. Мы ж аддаём расійскіх палонных здаровымі і адкормленымі, многія з іх не хочуць вяртацца, пакуль не скончыцца гэтая вайна.

**— У прынцыпе, павінен адбыцца абмен усіх на ўсіх?**

— Так, гэта заяўлена. Такое пагадненне падпісана ўжо чацвёрты раз. Чатыры разы рускія падпісвалі дагавор з намі, што яны выводзяць войскі, абавязваюцца не прымяняць зброю і сілу. Пасля падпісання дагавораў у Назрані наша дэлегацыя, вяртаючыся дадому, шэсць разоў падвяргаецца абстрэлам, нават верталётнай атацы, нягледзячы на тое, што за намі рухаюцца расійскія ж машыны суправаджэння, якія таксама пацярпелі...

**— Расійскі парламентарый Уладзімір Лукін запалохвае грамадскасць тым, што ў Чачні ўводзяцца законы шарыяту, што там будуць адсякаць рукі за нейкія парушэнні і г.д. Ці так гэта?**

— Не, не зусім так. Што такое законы шарыяту? Увогуле, ёсць злачынства і ёсць пакаранне за яго. Калі ў Амерыцы, дапусцім, за злачынства могуць забіць на электрычным крэсле, а ў Францыі — на гільяціне, то ў нашым Крымінальным кодэксе запісана, што смяротнае пакаранне прыводзіцца ў выкананне шляхам адсячэння галавы. А калі чалавек рэгулярна пападаецца на крадзяжы, калі ён невыправімы, як злодзей, то яму адсякаюць тое, чым ён крадзе, — руку. Гэта адпавядае шарыяту, такое пакаранне існуе ў многіх краінах Усходу, і ні ў кога гэта не выклікае здзіўлення, і там крадзяжоў амаль што няма, гэта ўсе ведаюць. Толькі і ўсяго. Трэба хіба што дадаць, што гэта ўведзена ў Крымінальны кодэкс і ўжо дзейнічае ва Узброеных Сілах. Ён асвечаны рэлігіяй, што самае галоўнае. Для чаго гэта было зроблена? Вы ведаеце, што вяртанне людзей пасля вайны з В'етнама ці Афганістана стварыла вельмі вялікія праблемы для Амерыкі і Расіі. А ўявіце сабе, што ў нас ваявала амаль усё дарослае насельніцтва, пасля такой жорсткай вайны псіхалагічная рэабілітацыя пойдзе цяжка, гэтыя людзі праз штосьці пераступілі, іх трэба вельмі жорстка і дзейсна ўтрымаць у нейкіх рамках. Уявіце сабе, што гэтыя амерыканцы з В'етнама вярталіся ў добраўпарадкаваную, сацыяльна забяспечаную краіну. А чачэнцы застаюцца ў сваёй разбуранай дзяржаве, у якой няма працоўных месцаў, бальніц, школ і г.д. Вы разумееце, якая небяспечная гэтая сітуацыя для нас, мы вымушаны ў гэтых умовах асвяціць крымінальнае заканадаўства рэлігіяй, тады ў нас з'яўляецца магчымасць асуджэння не толькі грамадзянскім, але і рэлігійным судом. Насельніцтва ў нас амаль на сто працэнтаў веруючае.

Мы спадзяёмся, што гэтая мера дапаможа нам пераадолець негатыўныя моманты рэабілітацыі тых людзей, якія ваявалі, якія ўцягнуліся ў вайну, як у наркотыкі. Мы сустракаем палонных наёмнікаў з Расіі — гэта былыя афганцы, іх цягне на вайну. Пры гэтым трэба ўлічыць, што чалавек мае права выбіраць ці суд шарыяту, ці грамадзянскі. Улічыце, што падобная судовая практыка існавала ў нас пры савецкай уладзе да трыццатых гадоў.

**— Пан міністр, некаторыя сцвярджаюць у прынцыпе фантастычныя рэчы — аб тым, што Дудаеў жывы.**

— Не, гэта не так, гэтыя размовы пайшлі ад таго, што ў народзе лічаць, што чалавек, які загінуў за радзіму,за свабоду, заўсёды жывы для ўсіх нас. Акрамя таго, у нас ёсць такі дзеяч тыпу Жырыноўскага, Салман Радуеў, ён таксама для нейкіх мэтаў пачаў гэта мусіраваць. На жаль, Дудаеў загінуў.

**Размаўляў**
**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

## АНТРАКТ ЗАКОНЧЫЎСЯ. НАПЕРАДЗЕ — ФІНІШНАЯ ПРАМАЯ

Пасля двухтыднёвага антракту, звязанага з удзелам нацыянальнай і маладзёжнай зборных у адборачных турнірах, аднавіліся матчы чэмпіянату Беларусі па футболу ў першай лізе. Чарговы, 25-ы тур ніякіх нечаканасцей не прынёс: лідэры выйгралі свае сустрэчы і значна наблізіліся да медалёў. Праўда, калі з бронзавымі іх уладальнікамі пытанняў практычна не ўзнікае (бабруйская «Белшына» пасля перамогі над «Дняпром» 2:1 паранейшаму прэтэндэнт нумар адзін), то з вызначэннем чэмпіёна пакуль поўная няяснасць. Адставанне ў адно ачко захавалася. Мінскія дынамаўцы даволі сціпла — 1:0 — перайгралі Маладзечна. Такі ж вынік быў паказаны і ў Мазыры, дзе мясцовы МВКЦ адолеў сталічную «Атаку-Аўру».

**Вось вынікі астатніх сустрэч:**

Ведрыч — Лакаматыў-96 — 0:3
Нафтан-Дэвон—Дынама-93 — 1:2
Шахцёр — Нёман — 1:0
Абутнік — Тарпеда (Мн) — 3:0
Тарпеда (Мг) — Дынама (Бр) — 0:0

**Турнірная табліца пасля 25-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 25 | 21 | 3 | 1 | 74-15 | 66 |
| 2. МВКЦ | 25 | 21 | 2 | 2 | 56-13 | 65 |
| 3. Белшына | 25 | 17 | 3 | 5 | 60-27 | 54 |
| 4. Лакаматыў-96 | 25 | 12 | 8 | 5 | 40-20 | 44 |
| 5. Атака-Аўра | 24 | 12 | 5 | 7 | 25-28 | 41 |
| 6. Дынама-93 | 23 | 12 | 4 | 7 | 29-26 | 40 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 25 | 11 | 4 | 10 | 37-42 | 37 |
| 8. Днепр | 25 | 10 | 4 | 11 | 28-29 | 34 |
| 9. Маладзечна | 25 | 9 | 6 | 10 | 37-29 | 33 |
| 10. Дынама (Бр) | 25 | 6 | 10 | 10 | 32-34 | 28 |
| 11. Шахцёр | 25 | 6 | 4 | 15 | 20-41 | 22 |
| 12. Абутнік | 25 | 5 | 5 | 15 | 22-37 | 20 |
| 13. Тарпеда (Мг) | 25 | 5 | 5 | 15 | 22-56 | 20 |
| 14. Нёман | 24 | 4 | 6 | 14 | 20-45 | 18 |
| 15. Тарпеда (Мн) | 25 | 4 | 6 | 15 | 19-50 | 18 |
| 16. Ведрыч | 25 | 4 | 3 | 18 | 14-43 | 15 |

Наступны, 26-ы тур пройдзе 19-20 кастрычніка. Матчы з удзелам лідэраў: Нафтан-Дэвон—Дынама (Мн), Белшына—МВКЦ.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

КРЫМІНАЛ

## БІЛІ НАЖАМІ ЛЮДЗЕЙ І САБАК...

8 кастрычніка мясцовыя жыхары знайшлі на абочыне дарогі ў вёсцы Калініна Бабруйскага раёна вадзіцеля таксі з Бабруйска з нажавымі ранамі ў вобласці тулава.

Аператыўная група і машына хуткай медыцынскай дапамогі прыбылі амаль адначасова. Пацярпеўшы толькі праз некалькі гадзін з цяжкасцю мог расказаць аб тым, што адбылося.

Як высветлілася, два пасажыры, маладыя хлопцы, угаварылі адвезці іх ноччу на самую ўскраіну раёна, нібыта да родных. На паўдарозе ў катэгарычнай форме запатрабавалі выйсці з салона. У адказ на пратэст вадзіцель атрымаў некалькі ўдараў нажом у грудзі.

Суткі міліцыянеры з Бабруйскага РАУС прачэсвалі Бабруйск і яго наваколле, паколькі адразу была прынята за аснову версія, што налётчыкі будуць замятаць сляды ў шматлюдных месцах. Поспех прыйшоў толькі бліжэй да поўначы. Дваіх, раней асуджаных за шматлікія крадзяжы, узялі ў рэстаране ў цэнтры горада.

А праз некалькі гадзін адбылася вочная стаўка з яшчэ адными пацярпеўшымі — жыхарамі вёскі Вінаградаўка гэтага ж раёна, якія апазналі затрыманых. Аказалася, што пасля зверскай расправы з пажылым вадзіцелем таксі падагрэтыя спіртным прыяцелі позна ўначы 9 верасня ўварваліся ў вёску і спрабавалі пад пагрозай панажоўшчыны «рэквізаваць» двух коней з прыватных падворкаў. Сабак, якія ўзнялі брэх на ўсю акругу, забівалі нажамі. І толькі спужаўшыся раз'юшаных мужыкоў з віламі наперавес, збеглі ні з чым.

**Аляксандр ЕКАЦЯРЫНЧАЎ,**
**прэс-група УУС.**

*г. Магілёў.*

## «ДРУЖБУ» АБКРАДАЮЦЬ

Хоць па ўсёй лініі прадуктаправода «Дружба» ажыццяўляецца кантроль, паранейшаму зладзеі імкнуцца ўрэзаць у прадуктаправод розныя кранікі, да якіх потым падганяюцца ёмістасці з мэтай іх запаўнення. Паблізу вёскі Замастошша Шклоўскага раёна, відаць, нядаўна ў трубаправодзе быў пастаўлены такі кранік. На жаль, яго адразу не выявілі. І вось 12 кастрычніка напорам нафтапрадукту яго выпхнула, і адбылася ўцечка каля 150 тон дызельнага паліва. Была забруджана плошча ў 2 гектары.

**Васіль КУРЛОВІЧ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

## РЭЙКАВУЮ ВАЙНУ ВЯДУЦЬ НОВЫЯ «ПАРТЫЗАНЫ»

Навучальны год у беларускіх школьнікаў, падобна, азнаменаваўся пачаткам «рэйкавай вайны». Так, 29 верасня на чыгуначным пераездзе па вуліцы Чэхава ў Бабруйску невядомыя падлеткі закідалі камянямі пасажырскі поезд «Кіславодск—Мінск». Машыніст быў вымушаны выкарыстаць экстраннае тармажэнне.

На дзень раней у Мінскі АУС на транспарце паступіла паведамленне аб тым, што на перагоне Асееўка—Калядзічы па прычыне знаходжання на рэйках пабочных прадметаў экстраннае тармажэнне зрабіў электрапоезд «Асіповічы—Мінск». Затрымка электрапоезда склала каля трох хвілін. Віноўнікамі здарэння аказаліся вучань 3-га і два вучні 1-га(!) класаў Гатаўскай сярэдняй школы.

А ў Шклоўскім раёне вызначыліся пяцікласнікі. Сваю энергію юнакі выплюхнулі на 5 лінзавых камплектаў святлафораў і ліхтар вулічнага асвятлення, якія ў выніку былі разбіты.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## СЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА...

Пералік сумнай статыстыкі Беларускай чыгункі аб аўтамабілях і павозках, што пажадалі «пацягацца» з паравозам, папоўніўся яшчэ двума фактамі. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэсслужбе чыгункі, на пераездзе чыгуначнага перагона Факел -- Крычаў у грузавы састаў урэзаўся аўтамабіль «ГАЗ-53», што належаў калгасу «Дзягавічы» Крычаўскага раёна. Пры гэтым былі цяжка траўміраваны два чалавекі, якія знаходзіліся ў ім, а аўтамабіль не падлягае аднаўленню. На пераездзе перагона Маладзечна — Пруды збіты грузавым цягніком легкавы аўтамабіль «ВАЗ», ён, як і ў першым прыкладзе, ехаў наперарэз саставу на чырвоны сігнал святлафора. Як высветлілася, і вадзіцель аўтамабіля і пасажыры былі ў нецвярозым стане. Адзін з іх загінуў, чацвёра трапілі ў бальніцу.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

# Курортны горад Сочы як заўсёды прыгожы і гасцінны, але дарагі

**Калі верыць рэкламным аб'явам, прыемна і танна можна адпачыць толькі ў Балгарыі, Румыніі, Чэхіі, Турцыі, Венгрыі, на Кіпры ці Канарскіх астравах... Звычайна «новыя беларусы» туды і накіроўваюцца. Тым больш, што нашы турыстычныя фірмы, як правіла, займаюцца турбізнесам з прыцэлам менавіта туды. А шкада. Па водгуках маіх знаёмых, лепшага адпачынку, чым на чарнаморскім узбярэжжы Расіі, яны не ведалі ніколі. Пастаяннае іх месца аздараўлення — Сочы. Таму, прытрымліваючыся прынцыпу, што самы надзейны спосаб арганізаваць свой адпачынак на дастойным узроўні — знайсці знаёмых, якія ўжо «паспыталі» ўсю яго прывабнасць, было і вырашана накіравацца ў рай на Чорным моры. Праўда, папярэдне набыўшы пуцёўку ў Мінску ў наш санаторый «Беларусь».**

Прыемна здзівілі паслугі «Белавія»: калі набываеш білеты ў Сочы і назад, то прадугледжана скідка ў памеры 10 працэнтаў ад іх кошту. Дзецям да дванаццаці гадоў — 50 працэнтаў, да васемнаццаці — 30 працэнтаў. Скідкі ж у турфірмах звычайна не прадугледжаны. Для параўнання: калі пералёт у Сочы і назад (са скідкай) будзе каштаваць 180 долараў, дык у Турцыю і назад — 280. Рэклама ж, якая абяцае меншыя выдаткі, проста не выклікае даверу. Да таго ж у Сочы можна дабрацца і поездам, кошт білета ў такім разе складзе крыху больш за мільён рублёў (туды і назад). Праўда, працягласць знаходжання ў дарозе павялічыцца з дзвюх гадзін да сарака васьмі.

... Сочы такі ж прыгожы і гасцінны. З гор струменіцца жыватворная прахалода. Галава круціцца ад водару мноства дрэў і кветак, якія цвітуць. Да прывычных ужо «ачагоў культуры» мінулых гадоў (цырк, тэатр, кінаканцэртная зала «Фестывальная») прыбавілася шмат новых. Начныя клубы і казіно, рэстараны і бары, дыскатэкі — літаральна на кожным кроку. У Сочы з'явілася вялікая колькасць невялікіх прыватных рэстаранаў. Гатуюць там цудоўна і заўсёды шчыра радуюцца кожнаму госцю. Ці небяспечна цяпер у Сочы? Мяркуючы па расказах адпачываючых і сочынцаў, а таксама зыходзячы са свайго вопыту, магу пераканаўча сказаць: не больш небяспечна, чым у іншых расійскіх гарадах. Акрамя міліцыі і АМОНа парадак падтрымліваюць ахоўнікі, спецыяльна нанятыя ўладальнікамі прыватных піцейных дамоў і магазінаў. Дарэчы, наш беларускі санаторый «Беларусь» ахоўваюць хлопцы ў беларускай міліцэйскай форме, якія накіроўваюцца туды з нашай краіны.

Але як ні зачароўвае і ні прыцягвае вечназялёны горад-сад Сочы для розных урачыстасцяў і забаваў, усё ж самая вялікая яго каштоўнасць — шматлікія здраўніцы, якія вяртаюць людзям здароўе і сілы.

Можна сказаць, «сэрца» чарнаморскага курорта — буйнейшае ў Расіі (і не толькі) бальнеафізіятэрапеўтычнае аб'яднанне «Мацэста». Слава пра унікальныя, якія не маюць аналагаў у свеце, серавадародныя хлорыста-натрыевыя воды гэтай лячэбніцы даўно выйшла за межы гэтай краіны. Як вядома, «Мацэста» спраўляецца з такімі хваробамі, як астэахандроз, рэўматызм, поліартрыты. На некалькі гадоў хапае эфекту (пасля курса лячэння) хворым, якія пакутуюць ад псарыязу, экземы, нейрадэрмітаў. Нармалізуецца стан верхніх дыхальных шляхоў у тых, хто жыве на экалагічна небяспечных тэрыторыях. Цяжка пераацаніць і вялізнае імунамадулірюючае ўздзеянне мацэсцінскай вады на чалавечы арганізм. Сёння любая сочынская здраўніца актыўна выкарыстоўвае мацэсцінскія гаючыя воды ў лячэнні сваіх пацыентаў. Дарэчы, толькі адзін з дзесяці сеансаў, што рэкамендуюць урачы як курс лячэння, каштуе цяпер каля 70 тысяч расійскіх рублёў.

У большасці сочынскіх санаторыяў адбыліся добрыя перамены. Стаўшы акцыянернымі таварыствамі, многія з іх навучыліся не толькі выжываць у няпростых абставінах сённяшняга дня, але і заваявалі трывалы аўтарытэт. Што цяпер зрабіць вельмі няпроста: вялікая канкурэнцыя на рынку адпачынку.

Прыемна, што дастойнае месца сярод іх займае і беларускі санаторый «Беларусь». Ён, як і іншыя здраўніцы Сочы, адышоў ад вузкай мясцовай спецыялізацыі: на курорт едуць усёй сям'ёй і важна, каб розныя дыягназы не разлучалі мужа і жонку. Таму прыходзіцца значна пашыраць сваю лячэбную базу. Папулярнасць нетрадыцыйных метадаў лячэння прымусіла галоўных урачоў многіх санаторыяў запрасіць на працу рэдкіх раней спецыялістаў. Мануальныя і іголкарэфлексатэрапеўты, ірыдадыягносты, гамеапаты, псіхатэрапеўты сталі прывычнымі сярод медыцынскіх работнікаў і ў «Беларусі».

Ёсць тут і стаматалагічнае аддзяленне, дзе не толькі лечаць, але і пратэзуюць. У санаторыі прыклалі шмат намаганняў для таго, каб падняцца да ўзроўню сённяшніх высокіх стандартаў вядомых сочынскіх санаторыяў. Палаты ў санаторыі, як правіла, разлічаны на двух чалавек. Інтэр'ер жылых пакояў і холаў вытрыманы ў добрым сучасным стылі, укамплектаваны ўсім неабходным для камфортнага адпачынку. У «люксах» і «паўлюксах» — дываны, тэлевізары, халадзільнікі, наборы посуду і г. д. Цяпер ходкая фраза «кліент заўсёды мае рацыю!» атрымала тут рэальнае ўвасабленне і стала своеасаблівым дэвізам для супрацоўнікаў здраўніцы.

Дарэчы, няма цяпер і жорсткага абмежавання па тэрміну знаходжання на курорце. Комплекс лячэння разлічаны на 24 дні. Для адпачынку можна купіць пуцёўку на тыдзень, 12 дзён, два месяцы...

Харчаванне ў «Беларусі», не пабаюся сцвярджаць, адно з лепшых у Сочы. Сям'я з Сібіры, якая адпачывала ў суседнім санаторыі імя Арджанікідзе, незадаволеная ўмовамі пражывання і лячэння, перабраўшыся ў «Беларусь», не магла ў нашым санаторыі першыя дні ўсвядоміць, што так добра можна арганізаваць адпачынак і аздараўленне.

Вось што гаворыць галоўны ўрач санаторыя Міхаіл Мікалаевіч Кучук:

— Вядома, што раней, калі санаторый «Беларусь» належаў Чацвёртаму ўпраўленню Міністэрства аховы здароўя, папраўіць сваё здароўе тут простаму чалавеку было немагчыма. Сюды прыязджалі толькі тыя, хто быў прыпісаны да Чацвёртага ўпраўлення: члены ўрада, дэпутаты, партыйная вярхушка... Цяпер жа да нас можа прыехаць любы жыхар Беларусі. Усе жадаючыя могуць набыць пуцёўкі ў Галоўным упраўленні лячэбна-прафілактычных і санаторна-курортных устаноў Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вядома, для многіх цана пуцёўкі проста недасягальная, але людзі едуць — здароўе даражэй. Узбярэжжа Чорнага мора заўсёды было, ёсць і будзе самым дарагім месцам адпачынку. Праўда, што значаць адны працэдуры па прыёму лячэбных ваннаў Мацэсты: людзі вылечваюцца ад многіх хвароб! Шкада, што зараз ідзе дыскусія вакол увядзення ў нас платных медыцынскіх паслуг. Гэта вельмі дорага. Кошт пуцёўкі з-за гэтага знізіцца не намнога (рэальная яе цана — восем мільёнаў расійскіх рублёў), але кліентаў адпудзіць: яны, сапраўды, паедуць у Балгарыю, на Кіпр, туды, дзе будзе танней. Выйсце адно: калі вялікую долю займаюць у аплаце камунальныя паслугі (а гэта так), трэба пераходзіць на аўтаномнае, унутрысанаторнае цепла- і водазабеспячэнне шляхам будаўніцтва невялікіх кацельняў на прыродным газе і геліяўстановак на сонечнай энергіі, якой у нас хапае. Гэта дазволіць па магчымасці знізіць сабекошт пуцёўкі, а значыць, і яе цану.

Як бачна, адміністрацыя санаторыя заклапочана не толькі якасцю паслуг (яны, сведчу, на высокім узроўні), але і коштам пуцёвак. Тут зацікаўлены, каб санаторый быў запоўнены пражываючымі на працягу ўсяго года, а не толькі ў «час пік» — летам. Можна толькі спадзявацца, што гэта праблема вырашыцца на карысць тых, каму вельмі неабходна аздараўленне ў Сочы.

Дарэчы, у той жа санаторый «Беларусь» пуцёўка каштуе ад 5,8 да 7,5 мільёна беларускіх рублёў (калі набываеш у Мінску). І зусім іншая цана яе ўжо для прыезджых з іншых краін. Напрыклад, тыя ж знаёмыя з Сібіры заплацілі за 24 дні 8,5 мільёна, але ўжо расійскіх рублёў. Але гэта яшчэ не самыя «крутыя» цэны.

Вядомая здраўніца «Лазурная» прапаноўвала ў жніўні нумар з гасцінай і спальняй, імпартным кандыцыянерам і спадарожнікавай антэнай за 254 долары ў суткі. Гэта без харчавання. Адзін сытны, але абсалютна «цвярозы» абед у прыгасцінічных рэстаранах «Кубань» ці «Пётр Першы» абыдзецца яшчэ ў долараў 60—70.

Харчавацца танней, але рэспектабельна, амаль немагчыма. Мае калегі астраханцы заехалі аднойчы чацвёра ў рэстаран «Каўказскі аул». Захацелі хоць разок зрабіць сабе свята. У дзень нараджэння.

— Умеранае застолле абыдзецца вам у «лімон»! — папярэдзіў іх афіцыянт. І тады дзве пары ўзялі ўсяго толькі 4 шашлыкі з прыправай і зелянінай, два куфлі піва і паўлітра гарэлкі ў башні на Малым Ахуне. Атрымалася месячная зарплата расійскай настаўніцы — 447.000 рублёў!

«По одежке протягивай ножки!» — сцвярджае жыцейская мудрасць. Ведаючы гэта, многія адкідваюць прапановы элітнага санаторыя «Сочы» з яго 350.000 рублямі з кожнага члена сям'і ў суткі. Ігнаруюць і былы цэкоўскі «Зялёны гай», дзе за суткі суседства са сталінскай дачай бяруць больш за паўмільёна...

Магчыма, значна ніжэй па цэнах знаходзіцца калісьці маладзёжны і ўчымсьці нават міжнародны цэнтр «Спадарожнік»? Дзе там, 260.000 рублёў за сутачнае пражыванне з кожнага чалавека плюс 69.000 «кармавых» за той жа перыяд дазволяць не кожнаму «багацею» адпачыць там.

Праўда, ёсць здраўніцы, якія прапануюць свае паслугі крыху танней. Старая добрая «Хваля» за традыцыйныя 24 дні ЛХЖ — «лячэння, харчавання, жыцця» — пакуль просіць з госця курорта 5.400.000 рублёў, «Арджанікідзе» — ад пяці мільёнаў да 6.300.000 (ад наяўнасці халадзільніка і іншых выгод). «Зара» згодна на 4.600.000 з кліента і нават на 3.700.000 — калі без лячэння...

Вось такія цэны. А калі дадаць яшчэ аплату за жаданне паслухаць любімых Лявонцьева, Распуціну і г. д. не менш чым за 100—150 тысяч, дык стане зразумелым, што не кожны зможа дазволіць сабе такую раскошу (цэны ў артыкуле дадзены ў расійскіх рублях. — **У. А.**). І гэта зразумела: арганізаваны адпачынак усё ж больш танны і камфортны. Сочынцы востра перажывалі спад «дзікіх» адпачываючых (раней адначасова каля мільёна прыезджых атрымлівалі паўднёвы мацыён, цяпер жа — толькі 10 працэнтаў ад той колькасці), але ўпарта трымалі цэны на арэнду пакояў — 15—20 долараў за суткі (без харчавання), а аднапакаёвых кватэр — 45 долараў. Даражэйшымі былі, у параўнанні з Мінскам, нават садавіна і агародніна. Калі ў Мінску кілаграм персікаў каштаваў 16.000 рублёў, у Сочы — 8—12 тысяч расійскіх рублёў (курс тады вагаўся ў рамках 1:3). Затое многія ацанілі асартымент сухіх вінаў, асабліва грузінскіх. Вядомыя і любімыя сталінскія напоі («Кіндзмараулі» і іншыя) каштавалі ад 13.000 да 20.000 рублёў.

Што ж, адпачынак у Сочы не кожнаму па кішэні, але калі трэба паклапаціцца пра здароўе, калі ўжо «прыціснула», многія хворыя едуць менавіта ў Сочы, каб прыняць мацэсцінскія працэдуры і адчуць сябе хоць на нейкі час паўнацэнным чалавекам. А грошай ніколі не будзе хапаць. Без здароўя іх не заробіш.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

# НОВЫ ПОДЫХ СТАРАЖЫТНАЙ РЫГІ

**У САСТАВЕ ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ ЛАТВІЮ НАВЕДАЎ КАРЭСПАНДЭНТ «ЗВЯЗДЫ». ПРАПАНОЎВАЕМ ЯГО РЭПАРТАЖ ПРА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ СТАЛІЦЫ КРАІНЫ.**

Нам пашанцавала — гасцінныя гаспадары пасялілі нас у атэлі «Рыга», што ў некалькіх хвілінах хадзьбы пешшу ад Старога горада. А прайсціся па яго крывых вулачках і плошчах, наведаць канцэрт арганнай музыкі ў славутым Домскім саборы — адно задавальненне. Старая Рыга — гэта музей пад адкрытым небам. Для аматараў статыстыкі: у старажытным цэнтры горада 590 збудаванняў, з іх 79 прызнаны гістарычнымі помнікамі. Цэрквы, кафедральныя саборы, дамы ствараюць дзіўную атмасферу. І часам здаецца, што ты сапраўды, як спяваецца ў некалі папулярнай латышскай песні, чуеш подых стагоддзяў.

Але адначасова тут, як і ў цэлым у Рызе, адчуваецца подых новых часоў. На погляд Інесы Плескачэўскай, супрацоўніцы Пасольства Беларусі ў Латвіі, Рыга за апошнія тры гады істотна змянілася. І прычым у лепшы бок. Я некалі двойчы наведваў гэту краіну і таксама магу пацвердзіць: яе сталіца, якая і раней была адным з самых прыгожых гарадоў СССР, набывае абрысы салідната еўрапейскага цэнтра.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта шырокая сетка як у Рызе, так і па ўсёй краіне новых, адпаведных высокім еўрапейскім стандартам, прыватных аўтамабільных заправак. Яны ўсюды. Іх шчыльнасць здзіўляе. У адным месцы мы налічылі аж тры аўтазапраўкі, якія былі размешчаны на невялікай адлегласці адна ад адной. Самі латышы тлумачаць гэту з'яву пастаянным вялікім завозам іншамарак — прыкладна шэсць тысяч, калі не памыляюся, штомесяц.

Зразумела, вуліцы, прылеглыя да Старога горада, лічацца найбольш прэстыжнымі для размяшчэння пасольстваў, прадстаўніцтваў замежных і латвійскіх фірмаў, розных офісаў, магазінаў. Дамы тут пераважна даваеннай пабудовы, а таму патрабуюць капітальнага рамонту. Пасля яго яны выглядаюць прывабнымі і памаладзелымі, надаюць гораду еўрапейскі бляск. Толькі рэдкія постаці жабракоў, якіх раней, як і ў нас, тут не было, не пасуюць да знешняга выгляду сталіцы.

Значна больш стала забаўляльных месцаў. Трэба сказаць, і раней у Рызе гэтага дабра хапала, але зараз іх выбар пашырыўся і можа задаволіць самыя патрабавальныя густы. Сярод моладзі папулярная начная дыскатэка «Андэграўнд» на тысячу месцаў, якую вядуць лепшыя дыск-жакеі Рыгі. Тут рэгулярна выступаюць замежныя і мясцовыя спевакі і групы, праводзяцца шоу, прэзентацыі, латарэі аўтамабіляў і турыстычных пуцёвак.

Характэрная рыса сучаснай Рыгі — хуткае і рашучае авалодванне прыватным капіталам сферай сервісу. Прыватызацыя была праведзена без прамаруджвання, чаму ў многім садзейнічала вяртанне аб'ектаў сервісу былым гаспадарам. У адным выпадку гэта паўплывала на росквіт таго ці іншага прадпрыемства, у другім не.

На гасцініцы «Рыга» прыватызацыя адбілася станоўча. Гэты шасціпавярховы гранітны гмах, які быў узведзены яшчэ да першай сусветнай вайны, пасля рэканструкцыі шведскай фірмай сёння адпавядае высокім заходнееўрапейскім стандартам і мае 4-зоркавую катэгорыю. А гэта значыць, што ў дадатак да 243 камфартабельных нумароў (на адзін нумар прыпадаюць 2 чалавекі персаналу) гасцініцы тут працуюць тры рэстараны, грыль-бар, казіно з вар'етэ, сауна, канферэнц-зала з сістэмай сінхроннага перакладу, більярд, ювелірны магазін, служба заказаў білетаў на ўсе віды транспарту, у тэатры і канцэрты, ёсць цырульня і касметычны салон і г. д. Як вы зразумелі, селяцца тут не бедныя людзі.

Турыстаў увогуле ў Рызе любяць (яны ж прыносяць грошы краіне) і імкнуцца ім усяляк дагаджаць. Прычым тут не менш, чым у заходніх, зацікаўлены ў турыстах з былых рэспублік СССР. Тая ж «Латінсервіс» арганізуе спецыяльныя туры для жанчын, аматараў піва і г. д.

Ды і саму Рыгу былым братам па Саюзу паказваюць трохі інакш. Што для шведа, датчаніна ці фіна гаворыць прозвішча Шцірліц, імёны іншых герояў папулярнага серыяла «17 імгненняў вясны»? А для нашага постсавецкага сэрца, перафразуючы радок Пушкіна, у прозвішчы «Шцірліц» вельмі многае злілося.


Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі.

Дык вось, поўныя эмацыянальнага напружання і драматызму кадры, калі абаяльны і рассеяны прафесар Плешнер, загнаны ў безвыходнае становішча гестапаўцамі, выкідваецца з апошняга паверха дома, аказваецца, здымаліся не ў швейцарскім горадзе Бёрне, а ў Рызе. А канкрэтна на вуліцы Яўніела, куды нас і прывялі. Вуліца гэта палюбілася кінематаграфістам. Тут, быццам на Бейкер-стрыт у Лондане, ішлі здымкі фільма пра Шэрлака Холмса.

Новыя дзяржаўныя і недзяржаўныя арганізацыі з'явіліся ў Рызе за апошнія гады, якімі кіруюць новыя для Латвіі людзі. Напрыклад, Бюро па правах чалавека, якое ўзначальвае, дакладней — выконвае абавязкі кіраўніка маладая і прыёмная Кая Гертнерэ. Бюро — салідная дзяржаўная структура, якая была створана ў адпаведнасці з пастановай Кабінета Міністраў. Яно знаходзіцца пад пільным наглядам Міністэрства юстыцыі, якое, па словах пані Гертнерэ, з'яўляецца гарантам незалежнасці бюро.

Кіраўнік бюро была першай важнай сталічнай асобай, з якой мела гутарку наша група журналістаў. Але не толькі гэтым запомнілася пані Гертнерэ.

Размову яна вяла з намі праз перакладчыка з латышскай на рускую і наадварот. І гэта была не поза, маўляў, прынцыпова не буду размаўляць на мове акупантаў. Дарэчы, па-руску ў Рызе з беларускімі журналістамі гутарылі і прэзідэнт Латвіі Гунціс Улманіс, і міністр замежных спраў Валдзіс Біркаўс, і міністр па справах Еўрапейскай супольнасці Аляксандр Кірштэйн, і міністр транспарту Віліс Крыштапан, і іншыя высокапастаўленыя і невысокапастаўленыя латышы. І не таму, што ім вельмі падабаецца руская мова. Яны выкарыстоўвалі яе як сродак міжнацыянальных зносінаў, што давала значную эканомію часу.

Думаецца, пані Гертнерэ таксама б з намі размаўляла па-руску, калі б яна ведала гэту мову. Але Кая не зусім звычайная латышка. Яна — дачка эмігрантаў, жыла і вучылася ў Злучаных Штатах. Прыехала ў Латвію, як і іншыя суайчыннікі, пасля абвяшчэння ёю незалежнасці ад Савецкага Саюза. Аднак многія з тых, хто вярнуўся, пагасцявалі тут пэўны час — хто больш, хто менш — ды і паехалі назад. Бо дым Айчыны толькі ў вершах і песнях салодкі і прыемны. А для большасці тых, хто, як гаворыцца, пусціў карані, стаў на ногі за мяжой (асабліва, калі гэта багатая краіна), вельмі няпроста прамяняць па патрыятычных матывах высокі ўзровень спажывання на існаванне на беднай радзіме, якая робіць толькі першыя крокі па шляху да свабоднай рыначнай эканомікі.

А вось Кая не паехала. Яна засталася ў Латвіі. Праўда, прымяненне яе энергіі і жаданню дапамагчы сваёй этнічнай радзіме знайшлі, на мой погляд, даволі дзіўнае. Магчыма, па амерыканскіх мерках яна і выдатны спецыяліст у сферы абароны правоў чалавека, але ў Латвіі адно толькі няведанне рускай мовы моцна зніжае эфект яе намаганняў.

Так, яна тэарэтычна добра падрыхтаваная і, хочацца спадзявацца, шчыра імкнецца быць надзейным звяном паміж дзяржавай і людзьмі, правы якіх парушаюцца.

Слухаем яе і складваецца ўражанне, што ты на лекцыі «лікбеза» аб правах чалавека. Цяжка сказаць, наўмысна ці па недасведчанасці, яна ў размове дыпламатычна абыходзіць праблему соцень тысяч неграмадзян Латвіі. У гэту катэгорыю, нагадаю, трапілі беларусы, рускія, украінцы, палякі, літоўцы. Хутчэй за ўсё, ёй, амерыканцы па выхаванню, якая не жыла ў Латвіі «за савецкім часам», здаюцца нязначнымі і не вартымі ўвагі патрабаванні так званых неграмадзян. Ды каб і захацела лепш унікнуць у сутнасць іх сённяшняга жыцця, шчыра пагутарыць з імі, то, прабачце, што гэта за шчырая размова праз перакладчыка?

Нямала нашых суайчыннікаў лічаць сябе падманутымі ў Латвіі. Адна з іх, 40-гадовая рыжанка, якая тут нарадзілася і вырасла, з роспаччу нам распавядала, што многія з нелатышоў у свой час падтрымлівалі лозунг аб незалежнасці краіны. І як яны потым былі абураны і расчараваны, калі з набыццём свабоды кіраўнікі народнага фронту высунулі новы лозунг — Латвія для латышоў. «Мы быццам трапілі ў пастку», — гаварыла жанчына.

Натуральным жаданнем нелатышоў было з'ехаць куды-небудзь. Але куды? На этнічную радзіму? Але дзе там жыць і як працаўладкавацца? Ды і крыўдна было пакідаць абжытае месца, куды большасць прыехалі па саюзнаму набору, нярэдка пасля адпаведнага конкурсу. Тут прайшла іх маладосць, нарадзіліся і выраслі дзеці. Дарэчы, у многіх органах унутраных спраў Латвіі служылі і працягваюць служыць выхадцы з Беларусі — выпускнікі Мінскай вышэйшай школы міліцыі.

Тым не менш, за апошнія тры гады, паводле даных нашага пасла ў Рызе Валянціна Вялічкі, на Беларусь вярнулася больш за шэсць тысяч чалавек. Едуць у асноўным сталыя ці маладыя. Людзі сярэдняга ўзросту неяк прыстасоўваюцца да перамен. Робяць гэта кожны па-свойму. Напрыклад, наш зямляк-прадпрымальнік узяў у сваю фірму дырэктарам латыша. Той ходзіць па інстанцыях і без асаблівых праблем вырашае пытанні, з-за якіх нелатышу прыйшлося б пабегаць.

Большасць нашых землякоў пакуль не збіраюцца пакідаць Рыгу. Прыжыліся. І яшчэ спадзяюцца на перамены да лепшага. Дай Бог, як кажуць.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Свая ігра ў аркестры

Яго імя сёння на слыху. Яно гучыць шэсць разоў на тыдзень па канале ГРТ. Гэта імя ніколі не аддзяляюць ад краіны Беларусь — ці то на гастролях у Італіі, ці то на конкурсе Еўрабачання, на іншых прэстыжных міжнародных фестывалях. І кожны раз вы абавязкова пачуеце: «Міхаіл Фінберг і Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь запрашаюць...» Бо імя чалавека ўжо не існуе адасоблена ад калектыву. Дзесяць гадоў таму стварыўся аркестр, які дастойна прадстаўляе нашу краіну за межамі і якім мы можам сёння ганарыцца, таму што ў ім сабраліся цудоўнейшыя музыканты. Дзесяць гадоў жыцця аддаў гэтаму аркестру Міхаіл Фінберг.

Памятаеце «Аркестр» Феліні? Калі ад адной асобы залежала, лад ці бязладдзе пануе сярод музыкантаў. Пры цяперашнім кіраўніку ў Дзяржаўным канцэртным аркестры бязладдзя не будзе. Аркестр — маленькая мадэль грамадства. З адной істотнай розніцай: тут не можа быць ніякага іншага рэжыму, акрамя таталітарнага. Таму ў кіраўніка ёсць небяспека аказацца адарваным ад музыкантаў. Як толькі гэта здарыцца — лічыце, няма аркестра. А Дзяржаўны канцэртны аркестр на Беларусі адзін з самых сабраных, арганізаваных, сыграных і таленавітых калектываў.

Утрымаць сёння такі аркестр — сама па сабе справа няпростая. Бо высокапрафесіянальныя музыканты не меней за іншых адчуваюць крызіснасць нашага жыцця. Зарплата за майстэрства дае падставы меркаваць, што дзяржаве талент быццам бы не вельмі і патрэбны. Многія музыканты шукаюць заробак за межамі краіны. А ў Дзяржаўным канцэртным аркестры касцяк захоўваецца ўжо некалькі гадоў. Магчыма, з-за добра арганізаванай працы? Ці з-за ўмення даражыць кожным канкрэтным музыкантам? Так ці інакш, у выглядзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра мы маем тое, што можа сёння лічыцца феноменам.

Ці не так? Аркестру падуладна розная музыка — ад складанай беларускай класікі сярэднявечча да вольнага джаза. Тут даюць новае жыццё цудоўным, палюбіўшымся і трошкі забытым песням, тут выпускаюць у свет нядаўна створаныя сучаснымі беларускімі кампазітарамі і паэтамі. Тры фестывалі прайшлі на Беларусі ў 1996 годзе з удзелам аркестра, мастацкім кіраўніком і галоўным ідэолагам якіх быў Міхаіл Фінберг. Хто яшчэ мог асмеліцца правесці фестывалі за самыя мінімальныя сродкі? Такім чынам у старажытным Нясвіжы загучала беларуская камерная музыка. Мінчане змаглі наведаць традыцыйныя джазавыя канцэрты. А ў Маладзечна вярнулася песня.

Працягваецца жыццё беларускай песні, хоць хіты і шлягеры рознага гатунку з усіх бакоў ціснуць на яе. Тым не менш, памятаеце, з якім уздымам людзі кожны раз чакаюць чарговага фестывалю Беларускай песні і паэзіі? Маладыя ўслухоўваюцца ў мелодыі сваіх бацькоў, бацькі імкнуцца ўнікнуць у сэнс песень, што падабаюцца моладзі. Усе разам — не думаючы пра Закон аб мовах — паўтараюць разам са спевакамі словы нашых паэтаў. А каб роднае слова гучала не толькі на фестывалі, з удзелам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра прайшоў шэраг творчых вечарын слынных паэтаў Беларусі: Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева, Валянціны Аколавай.

Шануюць тут і нашых кампазітараў, нагадваючы нам лепшыя іх песні. І што асабліва здзіўляе — шануюць сваіх лепшых музыкантаў, рыхтуючы іх бенефісы. Па колькасці падрыхтаваных праграм гэты аркестр сёння ў нас безумоўна першы. І па колькасці імёнаў паэтаў, кампазітараў, музыкантаў, спевакоў, якія называюць аркестравыя праграмы, — таксама першы. І па колькасці беларускіх эстрадных «зорак», творчы шлях якіх пралёг праз аркестр. Жыццё ідзе, з'яўляюцца новыя імёны. З імі Міхаіл Фінберг абяцае пазнаёміць у бліжэйшы час: «Зараз рыхтуецца праграма з удзелам самых юных талентаў нашай зямлі. Спевакі-пачаткоўцы паспрабуюць сябе ўпершыню на вялікай сцэне. Ёсць вельмі цудоўныя галасы. Магчыма, нас чакае адкрыццё...» Каб адкрыцці перыядычна з'яўляліся ў нас, Міхаіл Якаўлевіч мае намер адрадзіць нацыянальны конкурс маладых выканаўцаў.

Да свайго дзесяцігадовага юбілею Дзяржаўны канцэртны аркестр рыхтуецца ў гастрольны тур па Беларусі. А ў лютым нас чакае святочная праграма. Аркестр працуе, а гэта значыць, што сумаваць нам не давядзецца, будзе куды схадзіць і што паслухаць. Тым больш, што для вялікага калектыву 10 гадоў — толькі пачатак. Іншая справа — жыццё чалавека, для якога менавіта гэтыя гады сталі сапраўды «зорнымі». Поспех у аркестра ёсць. Засталося прызнаць у гэтым заслугу яго кіраўніка.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# У адвечным змаганні — Дабро і Зло

У маім архіве ёсць аматарская фотакартка, на якой зняты вучні другога класа, і я ў іх ліку, худыя, бедна апранутыя, але затое пад вялікім, у поўны рост, партрэтам «правадыра ўсіх часоў і народаў», вялікага, непахіснага і гэтак далей «таварыша Сталіна».

Гэты здымак быў зроблены ў 1948 годзе, а шмат гадоў пазней я ўбачыў партрэт цара Аляксандра II, таксама ў поўны рост, таксама ў бліскучай параднай форме. Партрэт «таварыша» Сталіна быў абсалютнай копіяй з таго, «царя-батюшки»...

Няма нічога страшнейшага на зямлі, чым былы рэвалюцыянер пры дзяржаўнай уладзе. Калі ён, разбуральнік, воляю лёсу ўскараскаецца на вышыню ды раптам уцяміць, што ўжо ж трэба не ламаць «до основания», што ўжо трэба рабіць «а затем», дык не знаходзіць нічога лепшага, як капіраваць найгоршыя ўзоры мінулага. Напрыклад, аднаўляць прыгонніцтва, якое цяпер мудра завецца «коллективным хозяйством»... Альбо з уласнага вопыту рабіць выснову, што царскія турмы былі недастаткова шчыльнымі. «От я б зрабіў лепш», — цешыцца такі рэвалюцыянер і будуе ГУЛАГ...

Пра ўсё гэта, а таксама пра многае іншае, разважае ў сваім новым захапляючым рамане Генрых Далідовіч. Кніжка гэтая называецца «Заходнікі», і здаецца, што з самой назвы яе вынікае пэўная абмежаванасць у месцы, часе, характары людзей і падзей, што ў ёй апісаны. Пасляваенны перыяд, не больш як нейкае дзесяцігоддзе, глухія пушчанскія вёсачкі ў заходняй частцы Беларусі, якая раней была пад Польшчаю, процістаянне працавітага сялянскага роду і ўсялякай прышлай свалаты... Яны і трапілі сюды, у «глыбінку», не па сваёй волі, а былі адлучаны ад «вялікага карыта» за розныя амаральныя, нават па паняццях гэтых нелюдзяў, учынкі...

Але «абмежаванасць» гэтая ўяўная. Пісьменнік Генрых Далідовіч піша вялікую гістарычную эпапею нашага народа. Мы не ведаем, колькі яшчэ будзе напісана твораў, але і за тое, што ўжо ёсць, трэба яму сказаць вялікі дзякуй. Пісьменнік — не сухі пратакаліст-архіварыус, ён не можа апісваць запар стагоддзе за стагоддзем, альбо адну падзею за другою. Таму мы ў пэўнай ягонай кніжцы бачым раптам Мінск 1918 года, у другой — Навагрудак XIII стагоддзя, у трэцяй — падзеі на вёсцы ў не такой ужо і далёкай мінуўшчыне.

І ўся гэтая рэтраспектыва ёсць не што іншае, як дзень сённяшні, убачаны праз чароўную прызму колішніх дзён і ўчынкаў. Здавалася б, якая нам справа да нейкага Данілы альбо Міндоўга, што жыў амаль тысячу гадоў назад? Але ж у тым рамане ёсць найважнейшая на ўсе вякі думка: багацце на Навагрудчыну прыйшло таму, што на гэтай нашай зямлі доўгі час панавалі спакой, мір... У новым рамане «Заходнікі» таксама ёсць непазбыўны жаль і нават стогн простага селяніна аб тым, што нам не даюць спакойна жыць і працаваць. Не даюць палякі, не даюць немцы, не дае гэты нягоднік Кураглядаў, бабнік, лайдак і прыстасаванец з невядомай вёскі Ветрава.

У рамане ўздымаюцца праблемы Дабра і Зла. Словы пра гэтыя адвечныя і ўсеагульныя паняцці наўмысна ўкладзены ў вусны былога «рэвалюцыянера», потым чэкіста, потым турэмнага «пахана», які за ўсё сваё жыццё палец аб палец не ўдарыў, не стварыў на зямлі нічога карыснага, нічога не пабудаваў, не ўзараў ніводнай соткі зямлі. І гэты Чалкаш, гэтае ўвасабленне Зла, павучае працавітага і мудрага селяніна, як і што трэба рабіць, як трэба жыць на гэтым свеце. Увесь род Грыгарцэвічаў — гэта і ёсць сапраўднае Дабро на Зямлі. Лепшыя з іх гінуць у змаганні з «рэвалюцыянерамі», але ж дабро да канца вынішчыць немагчыма, дзеці і ўнукі Грыгарцэвічаў жывуць сёння і будуць жыць вечна, а гэтых «паханаў» без роду і племені нават імя ніхто не ведае... Не выпадковая таксама і згадка пра тое, што «малодшанькі» Кураглядаў сядзіць у турме.

У тыя часы, што апісваюцца ў рамане, я жыў у Мінску. Добра памятаю, як аднаўлялі паўразбураны горад, будавалі трактарны завод, запусцілі першую тралейбусную лінію... Тысячы былых франтавікоў, партызан стаялі на рыштаваннях і клалі цэглу, з-пад іх рук, нібы прыгожыя цацкі, выходзілі Галоўпаштамт, ГУМ, новыя плошчы і вуліцы. Але я ўвачавідкі бачыў і тое, як Цанава з'яўляўся на стадыёне «Дынама». Маленькі чалавечак з чорнымі вусамі быў шчыльна акружаны здаровымі, адкормленымі ахоўнікамі. Яны нідзе не ваявалі, нічога не стварылі, яны толькі ўвесь час сачылі за «ворагамі народа» і знішчалі, знішчалі, знішчалі... У рэшце рэшт і самі яны, і іхні валадар адышлі ў нябыт, згнілі ў турме...

Толькі стваральная праца, толькі тое, што пабудавана, узарана, напоена і накормлена чалавечымі працавітымі рукамі — ёсць аснова Дабра, мае права жыць і будзе жыць вечна. Вось глыбінны сэнс новай кнігі Генрыха Далідовіча.

**Ігар ВАЛАСЕВІЧ.**

# Горск, гарчаны, Радзіма...

Не ведаю, як іншыя, ды толькі я ўпэўнены, што кожны пісьменнік найбольш ярка раскрывае свой талент, калі звяртаецца да асэнсавання таго, што яму блізка, дорага з маленства. Ва ўсякім разе, менавіта ў гэтым пераконвае творчасць А. Казловіча. Адзін пералік яго кніг займае шмат месца, а сярод іх і тыя, у якіх творы, што маюць непасрэднае дачыненне да вёскі Горск Бярозаўскага раёна, адкуль родам аўтар. Аднак у гэтым шэрагу асабліва адметнае апошняе па часе выданне — «Если бы да кабы». Прыхільнік раскаванай манеры пісьма, А. Казловіч рэдка калі прытрымліваецца дакладнага жанру ў яго класічным, кананізаваным разуменні. Таму і з'яўляюцца з-пад яго пяра і дакументальныя аповесці, і аповесці публіцыста, і сучасныя драмы. Гэтым жа разам пісьменнік прапанаваў аўтабіяэкалаграфічны раман.

Кажаце, падобнага жанру ў літаратуры няма, тым больш у беларускай? Не было, пакуль за пяро не ўзяўся А. Казловіч. Як і не было яшчэ шмат чаго, што дазваляе ўпэўніцца: на сённяшні дзень таленавіты пісьменнік-дакументаліст найперш Празаік. А гэта значыць, што напісанае ім акурат і падпадае пад вызначэнне «мастацкая літаратура» без якіх-небудзь агаворак ці тлумачэнняў. Зразумела, з прывязанасцю да пэўных фактаў, канкрэтных рэалій, хоць часам пісьменнік і вымушаны быць асцярожным, таму і мяняе асобныя прозвішчы. Але ў згаданым рамане гэтага не назіраецца. Бо і патрэбы няма. А. Казловіч не проста піша пра родную вёску і яе ваколіцы, ён па сутнасці дае зрэз яе жыцця на працягу ўсяго пасляваеннага часу. І робіцца гэта не столькі праз лёсы людзей, як звычайна прынята ў падобных творах. Дакладней, лёсы як бы вырастаюць, паўстаюць праз назвы, што маюць дачыненне да Бярозаўшчыны.

Ні многа ні мала, а аж 126 іх у кнізе. А пачалося ўсё з таго, што неяк, разгаварыўшыся са сваёй маці (светлая памяць ёй сёння), пачаў разам з ёй прыгадваць назвы мясцін, урочышчаў, палян, сядзіб, што запалі ў памяць з маленства:

*«...И вот я там, словно никогда оттуда не вырывался, — в шорохах таинственной листвы, в сиянии солнца и ромашек, в мелодии полесского говора, в круговом парении над Горском, над горэцким...*

*В соседней комнате **там** моя мать.*

*Прошел час. На моем листке значилось семьдесят пять названий.*

*Мать тоже закончила свое сочинение мира. На ее листке было 126 названий. Сто двадцать шесть.*

*Мамин Мир был богаче».*

Наш таксама становіцца куды багацейшым, аб'ёмным, калі ўваходзяць у свядомасць крыху дзіўныя, з палескім акцэнтам, а таму і гэткія адметныя па гучанню назвы і паняцці. Услухаемся ў іх! Ці не здаецца вам, што за ўсім гэтым (і ва ўсім гэтым) свая музыка, а асноўныя акорды яе ўтвараюць такі «музычны» рад: Горск, гарчаны (а менавіта гэтак па-мясцоваму называюць землякоў пісьменніка), Радзіма...

Бацькаўшчына як працяг малой радзімы. Бацькаўшчына як вялікі і неабсяжны свет, які нараджаецца з пачуцця любові да землякоў.

З першых жа старонак рамана акунаешся ў палескую стыхію, дыхаеш яе паветрам, убіраеш у сябе тую непаўторнасць і адметнасць, што характэрна менавіта для гэтых мясцін, а не для іншых. А яшчэ здзіўляешся (не можаш не здзіўляцца!), як здарылася, што раней нічога не чуў пра назвы, якія прыводзіць А. Казловіч.

Калі разабрацца, дык у падобным няведанні нічога дзіўнага няма, усё ж яны, як кажуць, мясцовага гучання. Ды сэрца падказвае інакш. Душа нагадвае: калі б болей з'яўлялася падобных твораў, куды меней было б у нашых сэрцах нацыянальнага бяспамяцтва, мы хутчэй бы ўпэўніліся, што тое, што прамаўляецца вуснамі народа, варта пастаяннай і ўдзячнай памяці. Бо ў народа няма нічога выпадковага. І кожная назва ўзнікла не сама па сабе, а як сведчанне ці вынік пэўных падзей, лёсаў, выпадкаў ці здарэнняў.

Не быў бы А. Казловіч А. Казловічам, калі б развагі, згадкі будаваў толькі на канстатацыі пэўных, няхай і нязначных, фактаў. Ён усё, пра што расказвае, увязвае са штодзённым жыццём. А ў выніку бачыцца, як усё больш парушаецца тая сувязь у прыродзе, якая, здавалася б, ніколі не павінна рвацца. На жаль, атрымліваецца наадварот. Чалавек няўважанасцю ўчынкаў парушае спрадвечную гармонію. А ў выніку... Сёння «Жомка — это ничто. Не лес, не поле, не сад, не болото, не пастбище, не сенокос». А да падобнага прывяла непрадуманая меліярацыя. З болем пісьменнік канстатуе: «После эры «Мелиорация» наступает эра «Ничто». А дзе эра нішто, там з'яўляюцца і адпаведныя насельнікі, у дачыненні да гарчакоў А. Казловіч называе іх «транзітнымі жыхарамі». І мае на гэта права. Бо інакш да тых, хто на зямлі чалавек чужы, ставіцца нельга.

Кніга «Если бы да кабы» — гэта голас сумлення нашага сучасніка. Голас аднаго з тых, хто дбае пра будучыню нацыі, народа, сваёй зямлі. Дбае сам і патрабуе таго ад іншых. А каб патрабаваць, на гэта неабходна мець маральнае права. Яго А. Казловіч мае. І таму, што глядзіць на ўсё як грамадзянін, і дзякуючы свайму майстэрству. А яшчэ — здольнасці крытычна ставіцца да пэўных сваіх учынкаў.

Што гэта так, пераконваюць публіцыстычныя адступленні, дзе аўтар вяртаецца да сваіх колішніх артыкулаў, нарысаў. Што было — тое было. Атрымліваецца, што і сам у нечым памыліўся. Але хоча, каб яго памылак не паўтарылі іншыя. А яшчэ жадае, каб было ў грамадстве паразуменне. І словы: «Горько, что идеи так разъединяют людей», хоць і сказаны з іншай нагоды, актуальныя, падказваюць шляхі да паразумення.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...

## КОЛЬКІ Ў СВЕТУ «КАНЦОЎ»?

**Ёсць магія круглых дат. Канец стагоддзя заўсёды выклікае ажыўленне грамадскай думкі, а яно нярэдка выліваецца ў рэвалюцыю. Што ж казаць аб канцы тысячагоддзя? Такое пытанне задае карэспандэнт Бі-бі-сі Юрый Конкер і дае агляд некаторых прароцтваў напярэдадні канца стагоддзя.**

Чуллівым людзям прыходзяць на розум думкі аб канцы свету. Так было тысячу гадоў таму, так гэта ёсць і цяпер. Прадказальнікі ўсіх масцей, рас і рэлігій прадказваюць неймаверныя рэчы. Мала хто прадракае спакойны і ціхамірны пераход у трэцяе тысячагоддзе. Нават абнаўленню чалавецтва павінны папярэднічаць выратавальныя ахвяры.

Адно з прароцтваў гаворыць, што ў бліжэйшыя гады, калі не месяцы, стары парадак рэчаў на планеце загіне і ўзнікне сусветны ўрад. На чале яго стане правадыр незвычайнай, проста-такі злавеснай прыгажосці і прывабнасці, які ўмее заваражыць масы, аднак на справе з'яўляецца ўвасабленнем сусветнага зла. Яго дзеянні прывядуць да трэцяй сусветнай вайны, у ходзе якой загіне палова чалавецтва. Супраць сусветнага ўрада выступіць кітайскае войска колькасцю ў 200 мільёнаў чалавек. Планета будзе ўсыпана горамі трупаў. Трэць марскіх жывёл і рыб загіне ад рускай ці амерыканскай ядзернай зброі.

Другі, хаця і падобны сцэнарый. Хрысціянства, ужо і без таго скажонае, канчаткова вырадзіцца. Чалавецтва загразне ў грахах, і Тварэц не дазволіць гэтага людзям. Народы пачнуць знікаць з зямлі адзін за адным, як біблейскія Садом і Гамора, аднак умяшанне Дзевы Марыі спыніць караючую руку, зло знікне ў ачышчальным агні, і на Зямлі настануць усеагульны мір і шчаслівае жыццё.

Побач з псеўдарэлігійнымі сюжэтамі стаяць псеўданавуковыя. У момант надыходу новага тысячагоддзя, гавораць адзін з іх, павернецца зямная вось, поры года і кліматычныя зоны зменяцца амаль адначасова. Акіяны скалыхнуцца, як вада ў перакуленым чайніку, і зальюць Каліфорнію і Брытанію. Загінуўшых будуць лічыць мільёнамі і хаваць у брацкіх магілах. Затое тыя, хто застанецца ў жывых, дадуць жыццё новаму біялагічнаму віду — звышчалавецтву. На цяперашніх людзей гэтыя анёлападобныя істоты будуць глядзець з тым жа пагардлівым замілаваннем, з якім мы глядзім на малпаў.

Гэтыя тры прыклады — толькі верхавіна айсберга. Вылічваюцца такія прагнозы тысячамі.

Многія з тых, хто чакае другога прышэсця Хрыста, вераць, што не памруць, а будуць узнесены прама на неба, якое разам з тым будзе адначасова і зямлёй. Найбольшую экзальтацыю такія вераванні набываюць у рознага кшталту хрысціянскіх сектах, у прыватнасці, на Далёкім Усходзе. Секты, у сістэме якіх апакаліпсічныя настроі закладзены першапачаткова, перажываюць нечуваны бум. Напрыклад, у 1981 годзе на Зямлі было 90 мільёнаў пяцідзесятнікаў, а сёння іх ледзь не паўмільярда.

Але якімі б камічнымі ні былі многія прароцтвы, у масе сваёй яны складаюць рэальную сілу, якая падганяе гісторыю кожнага верставога слупа круглай даты. У адчуванні, што існуючая цывілізацыя памірае, ёсць нешта ап'яняльнае. Гэта вера разам з уяўленнем аб непазбежным канцы свету — неад'емная рыса заходняй культуры. Камунізм — не больш чым адно з яе адлюстраванняў.

**«Расійская газета».**

СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Маладзік 12 кастрычніка.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Кіпрыяна, Іусціны, Феакціста, Андрэя, Анны, Касіяна**

**К. Тарэсы**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску, Гомелі — 13—15, Гродне, Мінску — 15—17, Брэсце — 16—18 градусаў.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература ўначы — 2—7, на ўсходзе рэспублікі замаразкі да 0—мінус 3, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НАПРЫКАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

# *Алег ЗАЛЁТНЕЎ:* «У ЧАЛАВЕКА ПАВІННА БЫЦЬ БОЛЬШ ПРЭТЭНЗІЙ ДА СЯБЕ...»



**Канцэртная праграма беларускай духоўнай музыкі ў выкананні Мінскага абласнога камернага хору «Санорус» пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, якая складаецца з «Усяночнай» (фрагменты) Сяргея Бельцюкова і «Літургіі св. Іаана Златавуста» Алега Залётнева вылучана на атрыманне дзяржаўнай прэміі ў галіне літаратуры і мастацтва за 1996 год.**

**З кампазітарам Алегам ЗАЛЁТНЕВЫМ гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА.**

**— Алег Барысавіч, вы для мяне ў нейкай ступені загадка. Як усякі эксперыментатар, вы непрадказальныя. Скажам, драматычная араторыя «Лісткі календара» ці паэма-карціна «Купальская ноч», напісаныя гадоў дзесяць назад, замацавалі за вамі імідж «класіка». А пару гадоў назад на канцэрце ў касцёле Святога Роха я пачула вашы два новыя творы — «Літургію св. Іаана Златавуста» і канцэрт для ўдарных «Крэда». Традыцыя і авангард...**

— Вы правільна заўважылі, што я эксперыментатар па духу. Для мяне ў мастацтве надзвычай важная навізна. Кожны раз хадзіць знаёмай сцежкай, якую добра ведаеш, — нецікава. Я люблю ставіць перад сабой кожны раз новыя задачы, якія, можа быць, і невыканальныя. Недзе з пачатку 90-х гадоў ува мне пачаўся ўнутраны пераварот. Я раптоўна захапіўся авангардам. У выніку быў напісаны канцэрт для ўдарных «Крэда». Ударныя інструменты ўвогуле вельмі спецыфічныя. Яны ніколі не трактуюцца ні ў аркестры, ні ў ансамблі як асноўныя, саліруючыя. Гэта дапаможныя інструменты, якія падкрэсліваюць рытм і г.д. Я ж іх выдзеліў у абсалютна самастойную групу. Гэта значыць «павесіў» на іх усю ідэю твора. Неабходна было выбраць форму, адпаведную задуме. Увогуле «Крэда» — гэта частка каталіцкай месы, якая мае яшчэ тры састаўныя (Народжаны, Распяты, Уваскрэс). Ісус Хрыстос — гэта лепшы з нас, людзей, скажам так. Такім чынам, канцэрт распадаецца на тры часткі. Натуральна, там я выкарыстаў самыя авангардныя сродкі мастацкай выразнасці.

Прызнаюся, што я быў неспакойны наконт таго, як будзе ўспрыняты мой новы твор. Па прычыне таго, што выбар такіх неспецыфічных для выказвання ідэі ў музыцы інструментаў і сучасных мадэрнісцкіх плыняў, стылістыкі я мог быць незразуметы слухачом. Але, як ні дзіўна, гэты канцэрт зрабіў моцнае ўражанне на музыкальную публіку. Сярод сваіх эксперыментальных твораў я яшчэ назваў бы «Тры кадэнцыі для аргана». Чаму раптам арган? Ведаеце, яшчэ ў XIX стагоддзі Мінск быў адной з арганных еўрапейскіх школ. І вось прайшло сто гадоў. Ёсць арган, на ім выконваюць музыку, але чыю? Сваю, беларускую, у дадзеным выпадку не іграем. Я неаднойчы задумваўся, чаму была загублена школа, забыта, занядбана магутная традыцыя. Як гэта здарылася, што ўсё бясследна знікла? У выніку роздумаў быў напісаны канцэрт, дзе аб'ядналіся арган і ўдарныя.

**— І пасля ўсіх гэтых рызыкоўных у мастацтве эксперыментаў (але часта і ўдзячных) вы зноў вяртаецеся да класікі?**

— Так. У 1994 годзе я завяршыў «Літургію св. Іаана Златавуста». Яна напісана мною для хору а капэла на кананічныя царкоўнаславянскія тэксты. Часткі ў ёй ідуць у адпаведнасці з парадкам праваслаўнай службы. Па складанасці харавой партытуры «Літургія» прызначана для канцэртнага выканання прафесіянальнымі калектывамі, хаця аднойчы гучала і на нядзельнай літургіі ў саборы св. Міхаіла ў Слуцку. Але заўважу, што «Літургію» я пісаў не як культавы твор. Ды я і не маю, напэўна, на гэта права. Я пісаў «Літургію» як мастак, творца, чые думкі і душа знаходзяцца ў сугуччы з біблейскімі ідэямі. А яны ўсеагульныя. Біблія — твор вечнасці, яна — для ўсіх. Там празарлівасць прароцтваў і глыбіні духу, і мудрасць...

**— Наколькі я ведаю, яшчэ да першага выканання на Міжнародным музыкальным фестывалі «Мінская вясна» ў 1994 годзе партытура твора трапіла ў рукі вядомага знаўцы беларускай музыкі Гая Пікарда (Лонданскі цэнтр Ф. Скарыны), які пераклаў асобныя часткі на беларускую мову і ўключыў іх у «Анталогію беларускай духоўнай музыкі».**

— Дадам, што на аснове маёй «Літургіі» і «Усяночнай» Сяргея Бяльцюкова створана містэрыя «Благаславі нас, Госпадзі!», пастаўленая ў Рускім драматычным тэатры.

**— Скажыце, Алег, як вам працуецца цяпер, калі ў нашай рэспубліцы адбываецца раскол грамадства па ідэйных арыентацыях, калі процістаянне палітычных сіл дайшло да апошняй рысы, калі нават і інтэлігенцыя, творчыя людзі аказаліся, што называецца, па розныя бакі барыкад?**

— Мне здаецца, што ў нас сітуацыя не такая ўжо змрочная. Падобных сітуацый у гісторыі чалавецтва было мноства. Скажам, да мастацтва адносіны ў нас увогуле не самыя лепшыя. Можа быць таму, што жывём мы не лепшым чынам. Мне думаецца, што гэта адбываецца так яшчэ і таму, што ў нас ідзе пераацэнка каштоўнасцей, і не ў бок, скажам так, паляпшэння адносінаў да чалавека. Адсюль усё і ідзе. Што мы сёння чуем у эфіры, на канцэртнай пляцоўцы? Усё гэта далёкае ад традыцыйнага ўспрымання мастацтва. Гэта шоу-бізнес. А шоу-бізнес робіць чалавека яшчэ больш прымітыўным, чым ён ёсць. Шоу-бізнес жыве, падтрымліваецца матэрыяльна як дзяржавай, так і камерцыйнымі структурамі. Напэўна, такое стала магчымым таму, што крытэрыі разумення мастацтва ўвогуле і яго задач у грамадстве заніжаны да немагчымай рысы. Таму мне бывае даволі часта крыўдна за сваю радзіму.

**— Але вы і самі, Алег, працуеце на радыё. Скажыце, вы адчуваеце ціск ідэалогіі, калі робіце тую ці іншую перадачу?**

— Я працую ў музычнай рэдакцыі Беларускага радыё. Вяду перадачу «Партрэт у музычным інтэр'еры» — гэта мая аўтарская перадача. Як рэдактар удзельнічаю ў стварэнні перадачы «Салісты іграюць з аркестрам» і ў «Свеце чароўных гукаў». Па-першае, гэта неідэалагічныя перадачы. І потым, я ніколі не выконваю цэнзарскую работу — не «выкідваю» кавалкі з запісу, калі ўдзельнікі перадачы гавораць пра свае адносіны да сучаснага мастацтва і жыцця. Я заўсёды праблемы і пытанні пакідаю ў эфіры. Таму я не ведаю, як бы я стаў працаваць, скажам, у грамадска-палітычнай рэдакцыі, дзе сапраўды ёсць свае ідэалагічныя каноны... Цяжка сказаць. Я не палітык, а музыкант. І на радыё прыйшоў працаваць таму, што маю здольнасці ў радыёжурналістыцы, нарэшце таму, што ў музычнай рэдакцыі павінны быць не толькі прафесіянальныя журналісты, але і прафесіянальныя музыканты, якія ведаюць праблемы музычнай творчасці знутры.

Што датычыцца ідэалогіі, то нават у самыя рэакцыйныя перыяды ў розных дзяржавах мастацтва выжывала, я думаю, яшчэ і таму, што яно не так ужо цесна было звязана з ідэалогіяй. Для мастацтва не такая важная ідэалогія дзяржавы, колькі само жыццё, агульначалавечыя праблемы.

Узяць сучасных кампазітараў. Яны ж пішуць не канкрэтна для нейкай улады. Сэнс мастацтва ў тым, каб зрабіць чалавека лепшым, больш душэўным. Я вось нядаўна зрабіў перадачу «Ля раяля аўтар» — у мяне ў гасцях быў кампазітар Уладзімір Дарохін. Мы многа з ім гаварылі аб рабоце душы. А творчасць — гэта перш за ўсё работа душы. Астатняе — прафесія, тэхналогія, рамяство. Як бывае? Чалавек творчай прафесіі выдатны рамеснік, але не мае душы, альбо наадварот... Яшчэ пісьменнік Анатоль Франс казаў пра двух пачвар, якія пагражаюць мастацтву, — гэта калі майстар не з'яўляецца рамеснікам, а рамеснік не з'яўляецца майстрам. Трэба, каб было і тое, і другое.

Але, на жаль, падобныя тэндэнцыі характэрныя для ўсяго нашага грамадства. Грамадства душэўна абмялела. Яно нічога не хоча рабіць, яно сканцэнтравалася на матэрыяльных праблемах...

**— Ну, дык нас жа вучылі, што матэрыя — першасная...**

— Я таксама быў выхаваны на пастулатах, што матэрыя — першасная. А пасталеўшы зразумеў: гэта не так. Першасная ідэя. Платон меў рацыю. У нас як цяпер разважаюць: вырашым спачатку матэрыяльныя праблемы, а потым возьмемся за ўсё іншае. Але так не бывае. Вазьміце развітое грамадства спажывання. Яны лепш за нас жывуць? Так. Натуральна, у іх лепшае харчаванне, лепшы дастатак. Але ці вырашылі яны свае праблемы? Чаму Захад імкнецца да нас? Я маю шмат сяброў у замежжы. І збольшага разумею, у чым тут справа. Здавалася б, што ў нас тут лепшае, чым у іх? Мы ў поўным матэрыяльным пройгрышы. Але людзі захавалі яшчэ душэўнасць, цеплыню, уменне і жаданне спачуваць іншым. А на Захадзе перамагае прагматызм і рацыяналізм. Значыць, штосьці набываючы, адначасова нешта губляеш.

Калі для нас галоўным цяпер будуць страўнік і каўбаса, калі грамадства вызначыць матэрыяльнае як галоўныя арыенціры развіцця — значыць мы ніколі не возьмемся за душу чалавека.

**— Калі ў грамадстве «спраўляе баль» масавая культура, кіруе шоу-бізнес, то дзеля каго працуеце вы, Алег, прыхільнік высокага мастацтва? Хто ваш слухач?**

— Так, я прыхільнік і абаронца высокага мастацтва. І ў мяне ёсць свой слухач. Гэта людзі, якія ведаюць маю творчасць, цэняць яе. Гэта не толькі прафесіяналы—музыканты і музыказнаўцы. Мой слухач розны — інжынеры, камерсанты, студэнты. Сярод іх многа тых, хто ўвогуле не мае музычнай адукацыі, але ў іх ёсць патрэба спасцігаць новае. Справа ў тым, што любы музычны твор пры ўсім тым, што ён — маналіт, распадаецца на розныя ўзроўні. Значыць, чым больш адукаваны чалавек, тым большую глыбіню твора ён можа спасцігнуць.

З узростам я паступова адкрываў для сябе Шостую сімфонію Чайкоўскага... Але не магу сказаць, што цалкам спасціг яе. Мы з узростам мяняемся. Адна і тая ж з'ява, твор па рознаму ўспрымаюцца ў 20 і ў 40 гадоў. Я і цяпер расту, хаця мне ўжо за 40. Сапраўдны творца ніколі не спыняецца ў сваім развіцці, ніколі не гаворыць: «Усё, я дасягнуў сваёй вяршыні». У іншым выпадку гэта ўжо не творца, альбо перастаў ім быць.

**— Пра што вы гутарыце з кампазітарамі і музыкантамі ў сваіх перадачах?**

— Я гавару з імі пра тое, што хвалюе і мяне. Бывае, што я задаю ім правакацыйныя пытанні. Напрыклад, іх адносіны да сённяшняга мастацтва, ці хочуць яны, каб іх дзеці выбралі бацькоўскую прафесію? Мне здаецца, што я добра разумею ўсё, што хвалюе маіх калег. Многія з іх, ужо маючы імя, нямала зрабіўшы для мастацтва, аказаліся разам з пенсіянерамі — людзьмі без сродкаў для існавання. Музыка, якой яны займаюцца прафесіянальна, сёння не можа пракарміць. Таму даводзіцца на жыццё зарабляць любым іншым шляхам, але не сваёй прафесіяй. І на творчасць застаецца зусім мала часу. Прынамсі, не ад добрага жыцця мушу і я працаваць на радыё, яшчэ недзе... Але застаецца ноч. Безумоўна, я разумею, што ўсё гэта адмоўна адаб'ецца на здароўі. Але інакш не магу. У такіх умовах я магу застацца творчым чалавекам, працуючы толькі ў такім рэжыме. У кожнага чалавека сваё прызначэнне на зямлі. Маё — гэта музыка, свет гукаў. І ўсе мае намаганні накіраваны на тое, каб выканаць гэта, дадзенае мне Богам, прызначэнне.

**— Ва ўсе часы творца быў у апазіцыі да ўлады. Дзяржава і Мастак заўсёды былі антаганістамі. Мастак па сутнасці сваёй індывідуаліст. Чаму ж цяпер творчыя людзі, аказаўшыся без апекі дзяржавы, зноў хінуцца пад яе крыло?**

— Дзяржава — гэта пастух. А што робіць пастух? Ён павінен сачыць за статкам, таму збівае ўсіх у кучу. А мастак па сваёй сутнасці імкнецца адарвацца ад статка. Вось вам і канфлікт. Але ж вы правільна заўважылі, што стадны інстынкт пачаў уплываць і на творцаў. Яны разгубленыя. Савецкая сістэма давала магчымасць выжыць усім, нават і бесталанным. А ў гэты цяжкі пераходны перыяд многія пачалі губляць глебу пад нагамі. Што такое? Прафесар у стаптаных старых чаравіках і студэнтка, якая ездзіць на вучобу ў асабістым аўто. Хіба гэта адэкватная іх асабістым заслугам з'ява? У многіх творчых людзей ад гэтай сацыяльнай неадпаведнасці, што называецца, «дах паехаў». Яны не змаглі сканцэнтравацца, сабрацца, заняць сваю нішу ў грамадстве.

У мяне таксама былі праблемы. Два гады назад я мусіў прыйсці да свайго сябра і папрасіць, каб ён узяў мяне на работу. Той прапанаваў работу сталяра. Я згадзіўся, бо трэба было карміць сям'ю. Тры месяцы я быў вымушаны авалодваць новай для сябе прафесіяй. Цяпер я з жахам прыгадваю тую цыркулярку, якая раўла як звер і ў якой маглі аказацца пальцы навічка... Але тады я быў настроены рашуча, не ўспрымаў гэта як трагедыю... Гэта мне і дапамагло... А неўзабаве з'явіліся заказы з тэлебачання. Я не круціў носам, а пісаў музыку да рэкламнага роліка. Пазней я выйшаў з крызіснай сітуацыі, зноў змог сур'ёзна займацца творчасцю. Бачыце, цяжкасці актывізавалі мяне, загартавалі душу. Калі ў маёй прысутнасці нехта з калег пачынае енчыць, скардзіцца, што ён жабрак, мізэрны чалавек, то я пачынаю думаць, што ён і сапраўды мізэрны чалавек. Калі духоўнае для яго — нішто, калі ён не змог саўладаць з сабою...

**— Вы моцны, перакананы чалавек. Вашай перакананасці можна пазайздросціць. Пэўна, перажытае, пераасэнсаванае ўвасобіцца ў новым творы?**

— Вы не памыліліся. Я пішу балет. Яго ідэя — мастак і грамадства. Шагал, Дабужынскі і Малевіч — мастакі Віцебскай мастацкай школы. Яны, іх творчасць паслужылі мне штуршком для напісання твора пра мукі, пакуты і радасць творчасці, пра ўзаемаадносіны з грамадствам.

Гэта работа — чарговая новая сцяжына. І я, вобразна кажучы, зноў прадзіраюся праз зараснікі, пераадольваю перашкоды, шукаю ісціну.



## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 15 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**9.20** «Дзяжурная аптэка». 23-я серыя.
**10.20** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
**10.40** «Мудрасць беднай дзяўчыны». Мультфільм.
**11.00** «Калі я стану веліканам». Маст. фільм.
**12.25** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
**15.00** Навіны.
**15.10** «Доктар Айбаліт». Мультфільм. Фільм 1—3-ці.
**15.45** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Паўлюк Багрым — паэт і мастак.
**16.15** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.40** Творцы. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі А. Бутакоў.
**17.30** На добры лад. Перадача з Віцебска.
**17.45** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Музычны антракт.
**18.40** Эканамікст.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Рэферэндум: шчырая размова.
**19.35** «Дзяжурная аптэка». 24-я серыя.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.25** Г. Цылінскі і І. Калныньш у маст. фільме «Ранняя іржа».
**23.55** Навіны.
**0.10** На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. А. Залётнеў, С. Бельцюкоў. Духоўная музыка.

### ГРТ

**11.00, 14.00, 17.00** Навіны.
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...»
**13.10** Шчаслівы выпадак.
**14.20** «Горад сабак».
**14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.55** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэйшым.
**16.30** «Вакол свету».
**17.20** Новая ахвяра.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** Тэма.
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Маст. фільм «Вялікая сям'я».
**22.40** Хакей. ЦСКА (Расія) — «Спарта» (Прага).
**0.15** «Кафэ кашмараў».

### Расія

**9.50-10.20, 23.25** Тавары — поштай.
**16.20** Блак-нот.
**16.30** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Залежыць ад цябе.
**17.20** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.30** Прыватная калекцыя.
**18.00** Надзвычайны канал.
**18.25** Лідэр-прагноз.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Раз на тыдзень.
**21.00** Надвор'е на заўтра.
**21.05** Мужчына і жанчына.
**21.45** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
**22.25** Эх, дарогі!
**23.35** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.50** Хто на што здатны.
**24.00** Гарачая дзесятка.

### НТБ

**17.00** Мультсерыял.
**17.30** Жаночыя гісторыі.
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Маст. фільм «Сапсаваныя дзеці».
**21.35** «Сучасны граф Монтэ-Крыста» (Францыя). 2-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Вялікі рынг.
**23.50** Меламанія. «Куін».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабою права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6657.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12